



# Рэгіянальная газета.

Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

24 ліпеня 2020 года №30 (1317)

18+


# Як у Маладзечне стаяць у чарзе, каб здаць экзамен на правы

**Чытачы «РГ» паведамлялі, што ў апошні час людзі стаяць з ночы ў чэргах, каб трапіць на экзамен да інспектара ДАІ. Карэспандэнты праверылі, ці так гэта, а таксама запыталіся ў Дзяржаўтаінспекцыі, што стала са здачай экзаменаў.**

старонка 2

Фота Настассі УТКІНАЙ.



## Як каронавірус паўплываў на працу школ летам

старонка 8

## Маладзечанцам расказалі, чаму байкот выбараў – кепскі варыянт

старонка 20



## Да 90-годдзя Героя Сацыялістычнай Працы Уладзіміра Калачыка пагутарылі з яго сынам

старонка 18

ISSN 1991–7155



Адсканујце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# «Чакалі і рабілі шашлыкі». Як у Маладзечне стаяць у чарзе, каб здаць экзамен на правы

**Чытачы «Рэгіянальнай газеты» паведамлялі, што ў апошні час людзі стаяць з ночы ў чэргах у Маладзечне, каб трапіць на экзамен да інспектара ДАІ. Карэспандэнты «РГ» вырашылі праверыць гэта, а таксама запыталіся ў Дзяржаўтаінспекцыі, што змянілася са здачай экзаменаў.**


Перад экзаменам на аўтадроме.

### «Першы чалавек заняў чаргу ўвечары»

17 ліпеня ў 5:00 каля Маладзечанскага аўтамабільнага навучальнага камбіната падрыхтоўкі, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў ужо было людзі. Іх каля дзясятка, амаль усе займалі месца ў чарзе яшчэ ноччу.

Большасць – маладыя хлопцы і мужчыны. Ля дзвярэй установы стаіць толькі адна жанчына, яна зойдзе чацвертая. Першага чалавека, які займаў чаргу, тут няма. Кажуць, займала жанчына яшчэ ўвечары 16 ліпеня.

Гэта чарга рэгістрацыі на экзамен у ДАІ, дзе людзі здаюць пляцоўку і горад. У Маладзечна, акрамя мясцовых, прыязджаюць здаваць экзамены з трох раёнаў Мінскай вобласці – Вілейкі, Валожына, Мядзела. Экзамены можна здаць і ў маладзечанскім ДТСААФ, але людзі займаюць чаргу на вуліцы Мічурына па фінансавай прычыне.

Тут можна разбіць чэк: асобна заплаціць за аўтадром і за горад. У ДТСААФ такой магчымасці няма.

І яшчэ адна акалічнасць, з-за якой людзі збіраюцца масава ноччу ў чаргу, – здаць экзамены можна толькі ў сераду і пятніцу.

Людзі самаарганізаваліся, прыляпілі да сцяны будынка аркуш паперы. На ім запісваюцца ў чаргу. Карэспандэнтаў папярэджваюць, што гэта ініцыятыва саміх людзей, а не кагосьці з арганізацыі.

Карэспандэнты з'ездзілі ў ДТСААФ, каб высветліць, ці ёсць там чэргі ў гэты ж час. Аднак там былі толькі работнікі. Яны сказалі, што ў іх арганізацыі гэты працэс праходзіць хутка, таму чэргаў няма.

### «Мама не паверыла, што такія чэргі»

Адзін мужчына, што сядзеў на прыступках будынка, сказаў, што заняў чаргу для дзіцяці.

– Як здаваць, калі ты не спаў усю ноч?

Адзін з хлопцаў, Аляксей С., распавёў, што працуе ў Маладзечне па размеркаванні. Сам з Івацэвіч. У сераду, 15 ліпеня, таксама быў у чарзе.

– Я сказаў маме пра гэтыя чэргі, дык яна не паверыла, што такое можа быць увогуле, – падзяліўся Аляксей.

Людзі ў чарзе расказваюць, як нядаўна прыязджалі здаваць дзяўчаты з Мядзела. Дасталі мангал, зрабілі шашлыкі, але сваёй чаргі так і не дачакаліся. Гэту ж гісторыю паўтараюць амаль усе, з кім у журналістаў атрымалася пагутарыць.

Воддаль ад прыступак стаялі мужчыны ва ўзросце. Яны таксама прыехалі на экзамен – адзін з Валожына, а другі прыехаў з жонкай з Мядзела.

Валожынец распавёў, што не першы раз бачыць такія чэргі ў Маладзечне.

– У Савецкім Саюзе было інакш. Неяк па-іншаму ставіліся. А тут людзі займаюць чэргі з вечара! І яшчэ не факт, што здасі гэты экзамен.

Мядзяльчук таксама абураецца. Ён прыехаў з жонкай да шасці гадзін раніцы.

– Вунь мужчыну што ехаць з Валожына да Маладзечна? А мне паўтары гадзіны дабірацца!

Бліжэй да 9:00 дзяўчаты і хлопцы пачалі праходзіць да аўтадрома. Там чакалі інспектара ДАІ.

Механікі, што працуюць у арганізацыі, якая дае машыны для экзамену, кажуць, што аўто ў іх дастаткова.

– Пытанні пра чэргі не да нас. Машыны ў нас ёсць, а вось людзей заўсёды шмат.

Экзамены на пляцоўцы пачалі здаваць а палове дзясятай. Інспектар Міхайлаў папярэдзіў, што на аўтадроме застаюцца толькі тыя, хто будзе здаваць пляцоўку. Ён папрасіў людзей, якія здаюць горад, пачакаць у іншым баку. Таксама адзначыў, што, калі ў кагосьці ёсць пытанні, ён з задавальненнем на іх адкажа.

Чарга на пляцоўцы фарміруецца таксама. Тут ужо не мае значэння, у колькі ты стаяў у чарзе раніцай. Першымі пайшлі здаваць хлопцы. За час, што наш карэспандэнт знаходзіўся ля пляцоўкі, экзамен здалі пяць з шасці маладых людзей.

### Што кажа ДАІ?

Цяпер міжраённы рэгістрацыйна-экзаменацыйны аддзел (МРЭА) АДАІ Маладзечанскага РАУС абслугоўвае навучальныя арганізацыі па падрыхтоўцы складу кіроўцаў усіх катэгорый, размешчаныя ў Валожынскім, Мядзельскім, Вілейскім, Маладзечанскім раёнах, у колькасці 12 адзінак.

Прыём тэарэтычнага экзамену праводзіцца толькі ў МРЭА АДАІ з выкарыстаннем адпаведнага абсталявання. Выезд супрацоўніка па месцы размяшчэння навучальнай арганізацыі з прыняццем практычнага экзамену ажыццяўляецца толькі па заканчэнні вучобы зарэгістраванай групы. Тэарэтычны экзамен ва ўсіх выпадках праводзіцца ў МРЭА АДАІ на адпаведным абсталяванні.

– На жаль, да цяперашняга часу якасць падрыхтоўкі кандыдатаў у кіроўцы транспартных сродкаў у навучальных арганізацыях застаецца на нізкім узроўні, што ў сваю чаргу прыводзіць да шматлікіх паўторных пераздач у ДАІ.

У другім квартале 2018 года з першага разу здалі 40,1%, у 2019 – 32,3%, у 2020 – 29,5% чалавек.

Некаторыя цяжкасці ў прыёме экзаменаў узнікаюць толькі ў дні, калі на прыёме экзаменаў у Маладзечне накладваецца прыём экзаменаў у вучэбных групах, размешчаных за межамі горада.

– Абстаноўка залежыць ад прыбыцця саміх кандыдатаў на экзамен. У адзін дзень прыходзіць больш, у іншы менш. Адрэгуляваць гэта немагчыма. Ёсць асаблівасці з прычыны пандэміі, якія абмяжоўваюць знаходжанне людзей у грамадскіх месцах.

Колькасць прынятых экзаменаў ад кандыдатаў у кіроўцы ў чэрвені 2018 года склала 538 адзінак, у чэрвені 2019 – 516, у чэрвені 2020 – 455 адзінак.

У павелічэнні колькасці супрацоўнікаў МРЭА АДАІ цяпер няма неабходнасці.

Паўторныя выезды для прыёму экзаменаў у Вілейцы, Мядзеле, Валожыне ажыццяўляцца не будуць. Нагрузка павялічваецца толькі ў летні перыяд, у асенне-зімовы і вясной колькасць зваротаў ад грамадзян зніжаецца.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Самыя высокія заробкі ў рэгіёне прапануюць экспертам на Беларускай АЭС.

# Дзе ў рэгіёне можна зарабіць дзве тысячы

## Аглядаем вакансіі і заробкі

**Прапануем вам агляд вакансій, якія апошнімі днямі з'явіліся на сайце Дзяржаўнай службы занятасці.**

### Вілейка: шукаюць спецыялістаў у гаспадарку, адукацыю, медыцыну

Кафэ «Вілія» шукае повара. Адукацыя – сярэдняя спецыяльная. Заробак ад 400 рублёў. За такія ж грошы патрэбны кладаўшчык на ПМК-88. Дзіцячы цэнтр "Надзея" шукае медсясцёр. Адну – на поўную стаўку. Спецыяліст павінны прайсці падрыхтоўку па спецыяльнасці «Фізіятэрапія». Заробак абяцаюць ад 670 рублёў. Другую медсястру возьмуць на паўстаўкі. Плаціць будуць – ад 310 рублёў.

Аператар машыннага даення ў Людвінове атрымае ад 600, педагог-арганізатар у вілейскай гімназіі «Логас» – ад 467,83 рубля.

Адразу некалькі вакансій прапануе гаспадарка «Новая Вілія», што ў Селішчы Вязынскага сельсавета. Гэта рабочы, электрагазазваршчык, трактарыст-машыніст, ветфельчар і галоўны ветэрынарны доктар, аграном, галоўны заатэхнік. Заробкі – 1200 рублёў. Такія сумы абяцаюць галоўнаму заатэхніку і галоўнаму ветдоктару, тысячу – рабочаму. Астатнім – крыху менш.

### Маладзечна: большасць вакансій – у вайсковай часці і сельскай гаспадарцы

Вайсковая часць у Красным мае наступныя вакансіі: спецыяліст па арганізацыі закупак, слесар-электрык па рамонце электраабсталявання баявых і спецыяльных машын, слесар па кантрольна-вымяральных прыборах і аўтаматыцы, механік гаража, электрагазазваршчык, токар, юрысконсульт, дэфектаскапіст па магнітным і гукавым кантролі. Заробкі ў межах 600-700 рублёў.

Прадаўцу ў краме абяцаюць ад 500. Столькі ж – штампоўшчыку на «Белхоле». Дзіцячы цэнтр культуры возьме кіраўнікоў гуртко ў на паўстаўкі. Заробак – ад 185 рублёў. А намеснік начальніка там жа атрымае ад 500. У гімназію №3 шукаюць повара з аплатай ад 375 рублёў.

У раённы вузел паштовай сувязі возьмуць паштальёна і апаратара сувязі. Абедзве вакансіі – крыху менш, чым на стаўку. Заробак – ад 494 рублёў.

Шмат працы ёсць у гаспадарцы ў Заскавічах. Сярод прапаноў – ветэрынарны доктар, рамшчык, кіроўца, стаяляр, брыгадзір, бухгалтар, заатэхнік, жывёлавод, аператар машыннага даення. Самы высокі заробак у ветдоктара – ад 700. У астатніх – у межах 450-500 рублёў.

Трактарыст у Маладзечанскіх электрасетках, згодна з прапановай на сайце, атрымае крыху больш за тысячу. Амаль столькі ж – абвальшчык мяса на «Акдзімоле». На гэта прадпрыемства патрэбныя таксама прадавец, жылаўшчык, дапаможны работнік. Заробкі – ад 500 да 800.

### Валожын, Мядзел: тут сціпла

Свежых вакансій па Валожыншчыне на 20-21 ліпеня не было. Апошнія за 16 і 14 ліпеня.

Толькі дзве новыя вакансіі і па Мядзельшчыне. Гэта прыбіральшчык у вучэбна-педагагічны комплекс у Крывічах з заробкам ад 375 рублёў і санітарка ў санаторый "Нарачанка" з такім самым заробкам.

### Астравец: ёсць заробкі – ад 1830 і нават ад 2040

На Беларускую АЭС запрашаюць кладаўшчыка, інжынера, экспертаў. Аднаму эксперту прапануюць – ад 1830, другому – ад 2040 рублёў. Інжынеру – ад 1080, кладаўшчыку – ад 550.

Загадчыку секцыі ў «Дабраноме» прапануюць ад 650 рублёў, кантралёру-касіру на прадпрыемстве «Гродна-тытунь» – ад 600.

### Ашмяны: асноўны працадаўца – ЖКГ

Тры спецыялісты патрэбныя ў Ашмянскую ветстанцыю. Гэта ветэрынарны доктар-радыёлаг з заробкам ад 450, а таксама кіроўца і загадчык ветаптэкі. Заробкі – ад 390 і ад 500 рублёў адпаведна.

На сельгаспрадпрыемства «Ашмянская Ясная Паляна» возьмуць дапаможнага работніка. Абяцаюць ад 375 рублёў. У Ашмянскі райвыканкам патрэбны спецыяліст з вышэйшай архітэктурнай адукацыяй. Заробак – ад 815 рублёў.

Спецыялісту па знешнеэканамічнай дзейнасці, які прыйдзе на мясцовы мясакамбінат, абяцаюць ад 700. У ЖКГ патрэбныя рабочыя, інжынер па кантрольна-вымяральных прыборах, прасоўшчык другаснай сыравіны, слесар, машыніст катлоў, прыбіральшчыкі, кветкавод, электрагазазваршчык. Інжынеру абяцаюць ад 750. Астатнія заробкі значна ніжэйшыя.

### Смаргонь: гандаль і вытворчасць

Тут патрэбныя спецыялісты ў гандаль. У «Дабраном» шукаюць прадаўца, загадчыка аддзелаў, грузчыкаў на стаўку і на паўстаўкі. Загадчыку абяцаюць ад 650, астатнім – менш на 100-150 рублёў. На «Пінскдрэў-Гродна» возьмуць загадчыка магазіна, грузчыка і прадаўца. Заробкі – ад 950, 650 і 500 адпаведна.

У лягас возьмуць станочнікаў дрэваапрацоўчых станкоў. Толькі аднаму прапануюць – ад 900, другому – ад 500. Камбінат хлебапрадуктаў чакае прыбіральшчыка і вагаўшчыка. Абодвум прапануюць – ад 380. У Смаргонскую раённую бальніцу шукаюць двух кіроўцаў. Адзін будзе працаваць у Залессі, другі – у райцэнтры. Заробак аднолькавы – ад 380.

На прадпрыемстве «Смаргонскія малочныя прадукты» патрэбныя апаратчык, машыніст і грузчык. Заробкі – у межах 400-600 рублёў.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**283,2** мільёна

Столькі пасажыраў карысталіся паслугамі пасажырскага транспарту ў Беларусі ў першым паўгоддзі 2020 года.

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 16.07 | 23.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4016 | **2.3854** |
| Еўра | 2.7445 | **2.7494** |
| Злоты, 10 | 6.1372 | **6.2132** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3919 | **3.3672** |
| Грыўня, 100 | 8.8522 | **8.5829** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **15.07** | **22.07** |
| Еўра | 2.7000/2.8000 | **2.7000/2.7900** |
| Долар ЗША | 2.3700/2.4500 | **2.3500/2.4300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 15.07 | 22.07 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,80 | **20,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,75 | **3,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | **7,60** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | **16,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,20 | **2,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,50 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,30 | **1,20** |
| Бульба, 1 кг | 0,90 | **1,00** |
| Буракі, 1 кг | 1,50 | **1,20** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Памідоры, 1 кг | 3,20 | **2,90** |
| Перац, 1 кг | 3,30 | **2,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 5,30 | **4,90** |
| Дыня, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Ківі, 1 кг | 7,90 | **7,90** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,90 | **5,90** |
| Персікі, 1 кг | 3,90 | **4,90** |
| Чарэшні, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **16,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Дваіх дзяцей засыпала пяском. Хлопчыкі загінулі

**АШМЯНЫ**

Па дадзеных следства, увечары 21 ліпеня двое хлопчыкаў 11 і 12 гадоў гулялі ўнутры катлавана, утваранага пасля забору пяску мясцовымі жыхарамі, паблізу адной з вёсак Ашмянскага раёна.

Устаноўлена, што калі дзеці былі ў яме, абваліўся грунт. У выніку здарэння хлопчыкаў засыпала.

Супрацоўнікі МНС дасталі дзяцей, аднак выратаваць хлопчыкаў не ўдалося.

Па словах мясцовых жыхароў, хлопчыкі – стрыечныя браты, прыехалі на лета да бабулі. Адзін з Ашмянаў, другі – з Маладзечна.

Следчыя агледзелі месца здарэння, прызначылі судова-медыцынскія экспертызы. Устанаўліваюцца ўсе абставіны здарэння.

Следчыя ў чарговы раз нагадваюць бацькам пра тое, каб сачылі за бяспекай дзяцей, асабліва падчас летніх канікулаў. Не пакідайце дзяцей без нагляду.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## Мужчына падчас сваркі пашкодзіў аўтамабіль былой жонкі

**ВІЛЕЙКА**

Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Мікалая Мяглова**, 18 ліпеня ў міліцыю па тэлефоне звярнулася жыхарка вёскі Пагост. Паскардзілася на былога мужа, які пашкодзіў яе машыну.

Міліцыянеры высветлілі, што каля шасці вечара жанчына прыехала ў Пагост на машыне. Былы муж, будучы нецвярозым, пачаў яе абражаць. Тады жанчына села ў машыну і паехала.

Але мужчына дагнаў машыну і стукнуў нагой па дзвярах. За дробнае хуліганства жыхар Вілейшчыны атрымаў адміністрацыйны арышт – трое сутак.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзеці смажылі бульбу-фры і ўчынілі пажар. Патушылі самі

**АСТРАВЕЦ**

У чацвер, 16 ліпеня, каля дзесяці раніцы, здарыўся пажар у адной з кватэр шматпавярховага дома па вуліцы Дуброўнай у Астраўцы.

У кватэры жыве шматдзетная сям'я. Гэтай раніцай дома засталося трое дзяцей дзевяці, дзесяці і трынаццаці гадоў. Двое хлопчыкаў вырашылі прыгатаваць бульбу-фры. Аднак калі скончылі гатаваць, забыліся выключыць індукцыйную пліту, пакінулі на варачнай панэлі посуд з алеем і пайшлі глядзець тэлевізар.

Неўзабаве дзеці адчулі пах гару. Прыйшлі на кухню і ўбачылі, што гарыць мэбля.

Пра пажар падлеткі паведамілі маці, якая была на працы. Жанчына ў паніцы патэлефанавала сваёй маме. Тая выклікала ратавальнікаў. Праўда, дапамога пажарных не спатрэбілася: дзеці самастойна ліквідавалі ўзгаранне.

У выніку агнём пашкоджаная выцяжка і кухонная мэбля, закураная столь. Прычынай пажару стала парушэнне правілаў эксплуатацыі электраабсталявання – пакінутая без нагляду ўключаная пліта.

**Паводле ostrovets.by.**

## Мужчына злавіў чатырох вугроў на 8 100 рублёў

**МЯДЗЕЛ**

8 ліпеня супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету на возеры Белае затрымалі грамадзяніна Р., жыхара Мінска.

Мужчына з выкарыстаннем донных вуд злавіў чатырох вугроў. Аматарская лоўля гэтай рыбы забароненая. Шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала 8100 рублёў, што з'яўляецца асабліва буйным памерам, паведамляюць у інспекцыі.

Мядзельскі РАСК па гэтым факце пачаў крымінальную справу па частцы 4 артыкула 281 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – незаконная здабыча рыбы, якая пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры. Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да шасці гадоў са штрафам.

Мядзельская міжраённая інспекцыя нагадвае чытачам, што аматарская лоўля вугра забароненая. Калі вугор выпадкова трапіўся на вашы снасці, яго неабходна зараз жа выпусціць назад у рыбалоўныя ўгоддзі.

Калі вам стала вядома пра факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства, Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць паведамляць пра гэта па тэлефоне даверу **+375 (17) 390-00-00** альбо на нумар **+375 (17) 975-07-40**. Атрыманую інфармацыю праверыць.

**Аддзел інфармацыі.**



Машына, на якой ехала нецвярозая жанчына з дзіцем.

Фота УУС Мінаблвыканкама.

# Затрымалі нецвярозую маладую маму-кіроўцу

## З ёй у салоне машыны быў двухгадовы сын

**МАЛАДЗЕЧНА**

**«Па вуліцы Янкі Купалы едзе аўтамабіль, якім кіруе п'яная жанчына. У салоне – малое дзіця» – такое паведамленне днямі атрымалі міліцыянеры Маладзечанскага РАУС.**

Першымі на месца здарэння прыехалі супрацоўнікі інспекцыі па справах непаўналетніх. Яны знайшлі аўтамабіль без кіроўцы па пешаходным пераходзе па вуліцы Янкі Купалы.

Відавочцы сказалі, што п'яная жанчына з дзіцем пакінула аўтамабіль і ўцякла. У далейшым маладую маму затрымалі інспектар па справах непаўналетніх. Жанчыну перадалі супрацоўнікам ДАІ, а яе двухгадовага сына – сваякам.

**При медыцынскім аглядзе канцэнтрацыя пароў алкаголю ў выдыхнутым жанчынай паветры склала 3,6 праміле.**

Маладая мама прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці, а інфармацыя накіраваная ва ўпраўленне па адукацыі Маладзечанскага раённага выканаўчага камітэта.

Нагадаем, што ад 17 да 20 ліпеня ДАІ Маладзечна праводзіла акцыю «Цвярозы кіроўца».

**УУС Мінаблвыканкама.**

## Пад коламі фуры загінуў мужчына

**АШМЯНЫ**

18 ліпеня каля паловы сёмай вечара на 139-м кіламетры аўтадарогі М7 Мінск – Ашмяны – мяжа Літоўскай Рэспублікі адбыўся наезд на пешахода.

Папярэдне ўстаноўлена, што 31-гадовы жыхар Літоўскай Рэспублікі, кіруючы аўтапоездам у складзе цягача маркі «Мерсэдэс» з цыстэрнай, рухаўся ў напрамку мяжы. У нейкі момант злева па ходзе руху фуры па-за пешаходным пераходам дарогу стаў пераходзіць пешаход. У выніку наезду 38-гадовы ўраджэнец Крычава памёр на месцы здарэння.

**Паводле УУС Гродна.**

## У выхадныя ледзь не згарэла крама

**МАЛАДЗЕЧНА**

18 ліпеня а палове чацвертай дня ў цэнтр апаратыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паведамілі пра загаранне крамы ў Маладзечне на вуліцы Лясной.

Пасля прыбыцця да месца выкліку ўстаноўлена, што гарыць смецце ў трох метрах ад крамы, паведамляюць у ГРАНС Маладзечна.

Прычына пажару высвятляецца. Разглядаецца неасцярожнае абыходжанне з агнём. Вінаватага ўстанаўліваюць. У выніку пажару знішчанае смецце, закураная вонкавая сцяна крамы. Агонь таксама пашкодзіў шыфер на даху.

ГРАНС Маладзечна нагадвае. Калі ўбачылі дым з акна і дзвярэй, неадкладна паведаміце па тэлефонах 101 ці 112, назваўшы дакладны адрас. Калі гэта прыватнае домаўладанне – паспрабуйце даведацца ў суседзяў, ці ёсць людзі ўнутры. Разбіваць вокны можна тады, калі дзякуючы гэтаму выратуюцца людзі, бо прыток кіслароду ўзмоцніць агонь. Калі ж адчулі пах дыму ў пад'ездзе або на лесвічнай пляцоўцы і бачыце дым з-пад суседскіх дзвярэй, але суседзі не адказваюць, эвакуіруйцеся з дома.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Палачанах машына збіла сямігадовую раварыстку

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя здарылася 18 ліпеня, каля 17:30, на вуліцы Савецкай.

Па папярэдняй інфармацыі, 27-гадовы кіроўца на машыне «Опель-Амега» ехаў па вёсцы з боку Маладзечна ў бок Валожына. Каля дома 92 ён наехаў на сямігадовую дзяўчынку, якая каталася на ровары.

Дзяўчынка – жыхарка Маладзечна. На ровары каталася пад наглядам дзядулі – жыхара Палачанаў. Наезд здарыўся ў дзядулі на вачах, паведаміла карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**. Пацярпелую з чэрапна-мазгавой траўмай, ударамі і ранамі забралі ў рэанімацыю Маладзечанскай дзіцячай бальніцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Затрымалі дзвюх нецвярозых жанчын-кіроўцаў

**ВІЛЕЙКА**

19 ліпеня на Вілейшчыне здарыліся два ДТЗ з удзелам нецвярозых жанчын-кіроўцаў.

Першае ДТЗ адбылося раніцай, каля сямі гадзін. Жыхарка сталіцы крыху зачапіла дрэва каля вёскі Прынта. Экспертыза паказала, што жанчына была нецвярозая.

Другое ДТЗ адбылося ўдзень на чыгуначным пераездзе, што ля вёскі Чырвоны Беражок. Жанчына-кіроўца з Маладзечна ўехала ў машыну, што стаяла перад ёй. Па выніках экспертызы кіроўца таксама аказалася нецвярозай, паведамляюць у Вілейскім РАУС. На абедзвюх жанчын склалі пратаколы. Яны атрымаюць штраф і будуць пазбаўленыя права кіравання транспартам на тры гады.

**Аддзел інфармацыі.**

# Галоўнае ў актывізме – знайсці аднадумцаў

**Пра свой досвед актывізму расказала сябра каардынацыйнай рады моладзевай арганізацыі NSNL, куратар экалагічнага напрамку і чалавек з актыўнай жыццёвай пазіцыяй Ганна Сафонава.**

### Актыўнасць з дзяцінства

У дзяцінстве Ганны піянеры з камсамолам сышлі ў гісторыю, а іншыя арганізацыі яшчэ толькі пачыналі развівацца. Але жыццё ў прыватным сектары Ліды было насычанае падзеямі жыццёва-бытавымі, таму актыўнасці хапала.

У падлеткавым узросце і пасля Ганна актыўна займалася адукацыяй – ліцэй з фізіка-матэматычным ухілам, універсітэт па спецыяльнасці «Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве», магістратура і паралельна праца. Ганна скончыла музычную школу, займалася шашкамі, танцамі, удзельнічала ў алімпіядах, інтэлектуальных конкурсах. Магчыма, у гэтым рэалізоўвала імкненне быць актыўнай. Ужо ў магістратуры была спроба пасябраваць з адной з грамадскіх арганізацый, але не склалася.

### У новым горадзе

У 2015 годзе жанчына пераехала на радзіму мужа **Дзмітрыя** ў Маладзечна і была ў стане глыбокага дэкрэтнага адпачынку.

> **Новы горад, нуль знаёмых, прывязанасць да пэўнага распарадку дня – усё гэта прыводзіла ў роспач. Таму для сябе паставіла дзве задачы: знайсці блізкіх па духу сяброў і палюбіць горад, у якім жыве.**

Сяброў сустрэла ў адукацыйным цэнтры «Адкрытага прастора», а першая спроба ў актывізме адбылася на першым гарадскім фестывалі «Прышчэпка» ў 2018 годзе. Там дапамагала ў арганізацыі кірмашу рамеснікаў і майстар-класаў.

З некаторымі будучымі калегамі па NSNL пазнаёмілася якраз у той перыяд: на сустрэчах, арганізацыі «Прышчэпкі». Але тады яшчэ і не думала, што знаёмства прывядзе да нечага большага.

Ключавым момантам стаў удзел у праекце «Вуліца стрытфуда», калі актывісты ўсе разам стваралі крэатыўную прастору на тэрыторыі міні-рынку. Менавіта тады Ганна афіцыйна стала членам моладзевай арганізацыі NSNL.

### Як знайсці нішу

Каля года Ганна дапамагала рэалізоўваць розныя мерапрыемствы і праекты каманды NSNL па розных напрамках: ад урбаністыкі да інклюзіі. Вельмі дапамагалі разабрацца ў сабе рэфлексіі па выніках працы.

Так жанчына зразумела, што не хапае той самай сваёй нішы, у якой змагла б рэалізавацца як эксперт.

> **Тэма рацыянальнага выкарыстання рэсурсаў, беражлівых адносін да прыроды і пазітыўнага ўзаемадзеяння заўсёды была блізкая.**

А калі бліжэй пазнаёмілася з інструментамі і магчымасцямі актывізму і партнёрства ў цэлым, выбар стаў відавочны. Так стала паралельна вывучаць досвед іншых і займацца развіццём экалагічнага напрамку ў арганізацыі.

### Асаблівасці ў рэгіёне

– Быць актыўным у рэгіёне і прасцей, і складаней адначасова, – лічыць Ганна Сафонава. – Складаней – таму што ў рэгіёнах можа не так добра развітыя інфраструктуры, павольна даходзяць інавацыі, складана перамагчы кансерватызм у поглядах. І прасцей – таму што ў невялікіх гарадах, мястэчках людзі адзін аднаго ведаюць значна лепш, чым у вялікіх гарадах. І гэты аргумент пераважвае ўсе астатнія, бо ў актывізме самае галоўнае – знайсці аднадумцаў, знайсці сваю каманду.

У камандзе NSNL нават не ішла гаворка пра тое, каб прыпыніць дзейнасць на час пандэміі. Гаворка ішла толькі пра тое, як найбольш эфектыўна перавесці працу ў анлайн рэжым. Уцягнуліся даволі хутка, усе сустрэчы, абмеркаванні і мерапрыемствы перайшлі ў лічбавы фармат. Праца ішла як у напрамку наладжвання ўнутранай дзейнасці арганізацыі, так і правядзення мерапрыемстваў анлайн. Многія паспяхова выкарыстоўвалі гэты час для дадатковай адукацыі, павышэння кампетэнцый і лідарскіх якасцяў.

– Для мяне актывізм – гэта лад жыцця, які дае вялізныя магчымасці рабіць свет вакол лепшым, – дзеліцца маладзечанка.

> **– Гэта мой спосаб выказваць сваю падзяку гораду, у якім жыву, і людзям, якія са мной побач. І мая мэта – дапамагчы стаць актыўным як мага большай колькасці людзей.**

Навічкам у актывізме Ганна раіць шукаць таго, хто ўжо нешта змяніў, і спытаць, як гэта атрымалася. Атрымалася ў яго – атрымаецца і ў цябе. А каб доўга не шукаць, пазнаёмцеся з маладзечанскай камандай NSNL бліжэй. Тут абавязкова знойдуцца людзі, гатовыя дапамагчы рэалізаваць нават самыя крэатыўныя змены. Бо гэта місія актывістаў – аб'ядноўваць людзей і змяняць свет да лепшага.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

Ганна Сафонава знайшла сваю нішу ў актывізме ў сферы экалогіі.

Фота Таццяны САФОНАВАЙ.




Артыкул створаны ў межах праекта RegiON (уключаючы рэгіён), які ў Маладзечне рэалізуецца моладзевай арганізацыяй NSNL, лакальнай камандай «Жывой Бібліятэкі» і Цэнтрам развіцця эфектыўнай камунікацыі «Жывая Бібліятэка» ў партнёрстве з Міжнароднай некамерцыйнай арганізацыяй Pact пры падтрымцы Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці (USAID).




Фота Настассі УЛІНАЙ.

Падчас ЦТ у Маладзечне.

# Дзяржкантроль працягвае праверку ўступнай кампаніі

**Сёлетні Указ Аляксандра Лукашэнкі ад 7 мая «Аб арганізацыі ўступнай кампаніі ва ўстановах адукацыі ў 2020 годзе» даў ёй чарговы старт у Беларусі. Уступная кампанія традыцыйна ўключае два асноўныя этапы: цэнтралізаванае тэсціраванне і ўступныя экзамены – падача дакументаў і сертыфікатаў ЦТ, экзамены і залічэнне абітурыентаў.**

У бягучым годзе асноўныя патрабаванні па кантролі за падрыхтоўкай і правядзеннем цэнтралізаванага тэсціравання, унутраных уступных экзаменаў і прыёму ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы вызначаныя гэтым Указам.

Гэты дакумент таксама зацвярджае склад і палажэнне аб дзяржаўнай камісіі, якая павінна забяспечыць роўныя ўмовы пры правядзенні экзаменаў, выкананне правоў і законных інтарэсаў грамадзян пры паступленні і даванне льгот пры іх залічэнні.

**Цяпер у Мінскай вобласці адзін з этапаў уступнай кампаніі ўжо скончыўся.**

Ад 25 чэрвеня да 16 ліпеня правялі цэнтралізаванае тэсціраванне ў трох пунктах: філіялах БНТУ «Барысаўскі дзяржаўны політэхнічны каледж», «Салігорскі дзяржаўны горна-хімічны каледж», у філіяле «Маладзечанскі дзяржаўны політэхнічны каледж» Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі. На ўдзел у цэнтралізаваным тэсціраванні былі зарэгістраваныя 19 909 чалавек, з якіх прайшлі яго 18 744 чалавекі, ці 94,4%.

**Ад 20 ліпеня пачнецца другі этап уступнай кампаніі – прыём дакументаў, здача экзаменаў і залічэнне абітурыентаў у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы Мінскай вобласці.**

Працэс будуць кантраляваць адпаведныя камісіі з удзелам работнікаў Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.

**У кожнай установе сярэдняй спецыяльнай адукацыі абітурыентаў інфармуюць пра месца размяшчэння і час працы камісіі, у якую яны могуць звярнуцца, калі пры паступленні парушаць іх правы і інтарэсы.**

У Камітэце дзяржкантролю Мінскай вобласці ў працоўныя дні, ад 9:00 да 13:00 і ад 14:00 да 18:00, працуе «гарачая лінія» па тэлефонах: **(8-017) 284-09-06 і 284-05-90**, на якой ахвотныя могуць выказаць свае заўвагі і прапановы па правядзенні ўступнай кампаніі.

Камісія прыме ўсе неабходныя намаганні, каб у кожнай навучальнай установе былі створаны справядлівыя, аб'ектыўныя і роўныя ўмовы для абітурыентаў, а працэдура залічэння прайшла дэмакратычна і галосна.

**Упраўленне кантролю бюджэтна-фінансавай сферы Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.**



Падчас выпускнога мерапрыемства ў Ілы людзей было мала. Усе сядзелі ў шахматным парадку, некаторыя былі ў масках. На ўваходзе ў школу ўсім нагадвалі пра меры бяспекі і прапаноўвалі антысептык, каб апрацаваць рукі.

# Ад летніка адмовіліся бацькі, астатнія мерапрыемствы – з захаваннем бяспекі

## Як паўплываў каронавірус на працу школ

**Сёлета праз пандэмію каронавіруса ўсе выпускнікі рэгіёна засталіся без традыцыйных раённых свят. З захаваннем мер бяспекі атэстаты хлопцам і дзяўчатам уручылі проста на школьным двары ва ўрачыстай абстаноўцы. Таксама ва ўсіх школах рэгіёна адмянілі летнюю практыку.**

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

Які яшчэ ўплыў пандэміі адчула на сябе школа ў летні час?

### Без масавых мерапрыемстваў, але з рамонтам

– Як і ўсюды, у нас не было летняй практыкі і вялікіх масавых мерапрыемстваў, – расказаў дырэктар Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця **Ігар Юшко**. – Ва ўрачыстай абстаноўцы з захаваннем мер бяспекі, без вялікага зборышча народу ўручылі выпускнікам атэстаты.

Па словах дырэктара, летам у школе настаўнік займаўся падрыхтоўкай да першага класа з дзецьмі, якія сёлета прыйдуць вучыцца. Але так тут працуюць толькі з дзецьмі, якія не хадзілі ў дзіцячы садок. А такіх меншасць. Таму заняткі былі амаль што індывідуальныя, адзначае дырэктар.

Звычайныя летнія справы – рамонт і падрыхтоўка памяшканняў да новага навучальнага года – тут ідуць, як заўсёды. Але падчас працы стараюцца не забываць пра маскі і іншыя сродкі засцярогі.

А вось летніка з дзённым наведваннем, які заўсёды ладзілі ў чэрвені, сёлета ў Ілы не было.

**– Ахвотных было зусім мала, таму летнік у школе мы адмянілі.**

Ведаю, што ў іншых школах Вілейшчыны летнікі былі. Працуе таксама і кругласутачны лагер для школьнікаў «Казка». Але таксама з захаваннем усіх мер бяспекі і па скарочанай праграме, – падсумаваў Ігар Аляксандравіч.

### Як працавалі летнікі ў школах

Як паведамілі ў аддзелах адукацыі рэгіёна, у шматлікіх школах летнікі ў чэрвені былі. З-за пандэміі ў іх не праводзілі выязныя мерапрыемствы, не запрашалі ў школу старонніх людзей з майстар-класамі і імпрэзамі. Педагогі сачылі за тым, каб дзеці сумленна выконвалі меры эпідэміялагічнай бяспекі.

Мы пагутарылі з маладзечанкай **Марыяй**, дачка-першакласніца якой наведвала такі летнік у маладзечанскай сярэдняй школе №14.

– Па сваёй працы муж рэдка бывае дома, я таксама ў чэрвені яшчэ працавала штодзень з 8:00 да 17:00. І бабулі нашы, хоць на пенсіі, але працуюць. Глядзець у гэты час за дачкой няма каму. А пакідаць на ўвесь дзень сямігадовае дзіця адно дома – не выйсце, – тлумачыць жанчына. – У школьным лагеры нам спадабалася. Так, сёлета не хадзілі ў кіно, у тэатр, у парк, але педагогі шмат чаго цікавага ладзілі для дзяцей у школе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Дашкольнікі падарожнічалі па экалагічнай сцежцы

СМАРГОНЬ

**Выхаванцы ясляў-сада №15 разам з дарослымі адправіліся ў падарожжа па экалагічнай сцежцы. Тут вясёлая цётачка Сава пазнаёміла ўсіх з лясной граматай і растлумачыла правілы паводзін.**

У гульнявой форме выхаванцы двух-трох гадоў назіралі за раслінамі і свойскімі жывёламі. Гэта спрыяла фарміраванню ў іх пачуцця прыгожага, выхаванню любові.

Трох– і чатырохгадовыя выхаванцы на сваім невялікім агародзе даведаліся шмат цікавага пра тое, як вырошчваць расліны, атрымалі першыя навыкі догляду за імі. Дзеці палолі градкі, палівалі гародніну.

Для ўдзельнікаў чатырох і пяці гадоў педагогі выбралі маршрут падарожжа па сцежцы турыста. Падчас падарожжа дзеці гулялі, назіралі, адгадвалі загадкі і выконвалі заданні, замацоўвалі веды пра мурашак і іх жыццё. На метэастанцыі нашы выхаванцы навучыліся вызначаць кірунак і сілу ветру, а таксама час па сонечным гадзінніку.

Выхаванцы пяці-шасці гадоў замацоўвалі ўяўленні пра жывёл розных прыродна-кліматычных зон, аб'ядноўвалі іх па розных прыкметах: па класах, месцы пражывання, спосабу перамяшчэння. Асаблівую ўвагу мы надалі жывёлам беларускіх лясоў, якія занесеныя ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.

Падарожжа па экалагічнай сцежцы дало выхаванцам магчымасць адчуць сябе адказнымі за прыроду, жаданне яе берагчы і захоўваць. Педагогі нашага садка ўпэўненыя, што з'явы і аб'екты жывой прыроды прыцягваюць дзяцей прыгажосцю, яркасцю фарбаў і разнастайнасцю. Назіраючы за імі, дзіця ўзбагачае свой досвед і спазнае навакольны свет.

**Аксана ТАГАНАВА,**
**Алена ТРАСКОЎСКАЯ,**
**музычныя кіраўнікі ясляў-сада №15 Смаргоні.**
**Фота забяспечанае аўтарамі.**



На экалагічнай сцежцы дзеці вучацца даглядаць кветкі.

## Беларусь 1

**6.05** Існасць [СТ].

**6.30, 22.00** Х/ф **«СИНЕЕ ОЗЕРО».**

**8.25** Один день. Государственная граница.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** Смысл жизни. Вадим Девятовский.

**9.45** Здоровье [СТ].

**10.35** Дача.

**11.10, 12.10, 15.45, 19.10** Х/ф **«ВПЕРЕДИ ДЕНЬ».**

**15.15** Краіна.

**21.00** Панорама.

**21.45** «На контроле Президента».

**2.00** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.40** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.25, 21.05** Телебарометр.

**9.30** Х/ф **«САМОЛЕТЫ».**

**11.50** Копейка в копейку.

**12.20** Камень, ножницы, бумага.

**12.55** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**13.50** Х/ф **«КРИСТОФЕР РОБИН».**

**15.30, 0.10** «Когда мы дома». Скетчком.

**16.00** «Обмен женами 2». Реалити-шоу.

**17.35** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.

**19.05** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ: ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ГОСТЬЯ».**

**23.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 15.20, 20.20** Навіны культуры.

**8.20** Гэты дзень.

**8.25** «Приключения Домовёнка». Мультфільм.

**8.45** «За двума зайцамі». Мастацкі фільм СТ.

**10.00** «Жывая культура». Абрад заклікання дажджу (в.Стары Дзедзін, Клімавіцкі раён, Магілёўская вобласць).

**10.25** «Беларуская кухня». Юшка.

**10.55** «Народны майстар». Разьбяр Валерый Мінкоў.

**11.20** «І зноў Аніскін». Мастацкі фільм СТ.

**14.50** «Навукаманія».

**15.40** «Паўторны шлюб». Мастацкі фільм.

**17.20** «Камертон». Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, кінааператар Алег Аўдзееў.

**17.50** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**18.25** «У зоне асобай увагі». Мастацкі фільм.

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — вядучы спецыяліст Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Алена Каліноўская.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Міколка-паравоз». Мастацкі фільм.

**22.40** Тэлеверсія закрыцця XXIX Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**7.45** ОНТ представляет: «По справедливости».

**8.00** Премьера ОНТ: «Беларусь. Геаграфія з біяграфіяй».

**8.05** Премьера. «Неизвестный Якубович».

**9.10** Специальный выпуск к 75-летию Леонида Якубовича. «Поле чудес».

**10.30** К 25-летию Первого канала. «ДОстояние РЕспублики». Лучшее.

**12.30** Х/ф **«ОТПУСК ЗА СВОЙ СЧЕТ».**

**14.55** «Олимпиада-80. Больше, чем спорт».

**16.20** «Сегодня вечером».

**18.15** «Сегодня вечером» Продолжение.

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** Премьера ОНТ: «Формула безопасности».

**21.45** ОНТ представляет: «Моя Беларусь».

**21.55** «Олимпиада-80». «Сегодня вечером».

**23.35** Премьера. Юбилей группы «Цветы».

## СТВ

**6.00, 1.00** «Пища богов».

**7.45** «Анфас».

**8.05** «Самая полезная программа».

**9.00** «Ровесники независимости». Документально-публицистический фильм из цикла «Свой путь».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00** Документальный проект.

**12.15, 13.40, 16.40** Т/с **«НЕИСПРАВИМЫЕ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**19.55** «СТВ-спорт».

**20.05** Документальный спецпроект.

**21.45** «Территория заблуждений».

**22.45** «Секретные территории».

## Мир

**5.00** Х/ф **«ЦИРК».**

**5.30, 7.55** Мультфильмы.

**7.20** «Секретные материалы».

**8.35** «Наше кино. История большой любви».

**9.05** Ток-шоу «Слабое звено».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«ЖЕСТОКИЙ РОМАНС».**

**13.10, 16.15, 19.15** Т/с **«ВАНГЕЛИЯ».**

**2.40** Х/ф **«ЛЕТО НА ВИНОДЕЛЬЕ».**

**4.00** Х/ф **«ВЕСЕЛЫЕ РЕБЯТА».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.10** Сегодня. Главное.

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «50 рецептов первого».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.55** «Города Беларуси».

**9.25** «Врачебные тайны плюс».

**10.25** Главная дорога.

**11.05** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».

**11.55** Квартирный вопрос.

**12.55** «Поедем, поедим!».

**13.40** Истории спасения.

**14.15** Х/ф **«МОРСКИЕ ДЬЯВОЛЫ. СМЕРЧ».**

**16.25** «Секрет на миллион» Сергей Лазарев, 2 ч.

**18.20** «Следствие вели…».

**19.25** Т/с **«ЖИВОЙ».**

**23.15** «Крутая История».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ЗИМНЯЯ ВИШНЯ».**

**8.40** Х/ф **«МОЙ ПАПА ЛЕТЧИК».**

**10.35** «По секрету всему свету».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.30** «Сто к одному».

**12.20** Х/ф **«СЕРЕБРИСТЫЙ ЗВОН РУЧЬЯ».**

**14.15** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».

**15.20** ПРЕМЬЕРА. «100ЯНОВ». Шоу Юрия Стоянова.

**16.25** Х/ф **«МОЙ БЛИЗКИЙ ВРАГ».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.50** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.35** Х/ф **«СИНЕЕ ОЗЕРО».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Гномео и Джульетта. **7.35** Давайте потанцуем. **9.20** Прости, хочу на тебе жениться. **11.15** Иллюзионист. **13.10** Сердцеед. **15.05, 3.20, 5.00** Волшебная страна. **16.50** Белоснежка и охотник. **19.00** Остров проклятых. **21.20** Талантливый мистер Рипли. **23.50** Линкольн для адвоката. **1.50** Талли.

### TV1000 ACTION

**7.05** Ларго Винч 2: Заговор в Бирме. **9.05** Уличный боец. **10.50** D.O.A.: Живым или мёртвым. **12.15** Фар Край. **13.45** Страховщик. **15.40** Вавилон Н.Э. **17.25** Отель «Артемида». **19.00** 22 пули: Бессмертный. **21.00, 5.10** Город грехов 2: Женщина, ради которой стоит убивать. **22.40** Прогулка среди могил. **0.35** Ю-571. **2.45** Штурм Белого дома.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.40** Глухарь в кино. **9.20** Полёты во сне и наяву. **11.00** Робо. **12.30** Про любоff. **14.30** Ласковый май. **16.35** Легенда №17. **19.00, 5.35** Экипаж. **21.25** Статус: свободен. **23.10** Привычка расставаться. **0.35** Защитники. **2.20** Фантом. **4.00** Спарта.

### ТВ3

**6.00, 10.00** Мультфильмы. **9.45** «Рисуем сказки». **10.45, 11.45** «Далеко и еще дальше с Михаилом Кожуховым». **12.45** Х/ф **«СЕРДЦЕ ДРАКОНА. НАЧАЛО». 14.30** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР». 17.00** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР: ЭВОЛЮЦИЯ». 19.00** Х/ф **«РЕМНАНТ: ВСЁ ЕЩЁ ВИЖУ ТЕБЯ». 21.00** Х/ф **«ВОИНЫ СВЕТА». 23.00** Х/ф **«НЕ ДЫШИ». 0.45** Х/ф **«СЕРДЦЕ ДРАКОНА: ПРОКЛЯТЬЕ ЧАРОДЕЯ». 2.15, 3.00, 4.00, 4.45, 5.30** «Городские легенды 2012».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ГРОМОВЫ. ДОМ НАДЕЖДЫ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ПОРОКИ И ИХ ПОКЛОННИКИ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.45** Х/ф **«СЕКС НА ДВЕ НОЧИ». 2.25** Х/ф **«ЗЛОВЕЩИЕ МЕРТВЕЦЫ 3: АРМИЯ ТЬМЫ». 3.55** Х/ф **«ХОЛОСТЯЧКИ». 5.25** Х/ф **«ОСТИН ПАУЭРС: ЧЕЛОВЕК-ЗАГАДКА МЕЖДУНАРОДНОГО МАСШТАБА». 7.05** Х/ф **«РОБИН ГУД». 9.30** Х/ф **«КАК ОТМЫТЬ МИЛЛИОН». 11.55** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ». 13.50** Х/ф **«РЕСТОРАН ГОСПОДИНА СЕПТИМА». 15.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ С РИСКОМ ДЛЯ ЖИЗНИ». 17.15** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА». 19.30** Х/ф **«БЕЛЫЕ ЦЫПОЧКИ». 21.30** Х/ф **«БРАТЬЯ ИЗ ГРИМСБИ». 23.05** Х/ф **«МАЛЬЧИК В ДЕВОЧКЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.45, 1.45, 2.55, 4.40, 5.45, 6.45** Т/с **«ТОЛЬКО ОДИН ВЗГЛЯД». 7.55, 8.55, 9.55, 11.00, 11.55, 13.00, 14.00, 15.05, 16.00, 17.05, 18.05, 19.05** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА 2». 20.05, 21.00, 21.55, 22.50** Т/с **«ЛЕГЕНДЫ О КРУГЕ». 23.45** Т/с **«ЛОЖЬ ВО СПАСЕНИЕ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.25** Шоу «ГАЛИЛЕО». **10.00** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **10.40** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.45** Шоу «ФОРМУЛА КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«ГОДЗИЛЛА». 15.25** Х/ф **«ОЧЕНЬ ПЛОХАЯ УЧИЛКА». 17.10** Фэнтези «ПОСЛЕДНИЙ ОХОТНИК НА ВЕДЬМ». **19.10** Х/ф **«РИО». 21.00, 3.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.25** Х/ф **«НОВЫЙ ЧЕЛОВЕК-ПАУК». 1.00** Исторический «ТАРАС БУЛЬБА». **4.35** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Хоккей на траве. Чемпионат Беларуси. Женщины. Финал. Пятый матч. **8.35, 15.50** Легкая атлетика. Чемпионат Беларуси. **11.15** Вот это спорт! **11.30** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 20-й тур. Динамо (Брест) — ФК Витебск. **13.30** Хоккей на траве. Чемпионат Беларуси. Мужчины. Финал. **15.05** Большой спорт. **22.20** Тренировочный день. **22.55** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **23.30** Спорт-центр. **23.40** Мир английской премьер-лиги.

### EUROSPORT

**0.00, 2.30, 6.00, 11.00, 12.00, 15.00, 19.50, 20.45** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Первый раунд. **1.00** Автогонки. World Endurance Championships-2020. Остин. **4.00** Велоспорт. Обзор. **4.30** Велоспорт. «Страде Бьянке»-2017. **8.00, 16.30** Велоспорт. «Страде Бьянке»-2018. **9.30, 17.15** Велоспорт. «Страде Бьянке»-2019. **17.50** Велоспорт. «Страде Бьянке»-2020. Прямая трансляция.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.15, 9.10, 12.15, 14.45, 18.15, 22.45, 0.35, 3.25** Итоговые новости. **6.30, 7.10, 7.50, 17.50, 18.50** Гаражная команда. **6.55, 7.35, 18.35, 19.15** Аварийная ситуация. **8.20, 9.25** Резьба по стали. **8.50, 9.55** Тест с дядей Ваней. **10.15** Мото тест-драйв. **10.35** Проверка на дороге. **10.55, 0.55** Испытание на прочность. **11.25, 19.35, 23.00, 3.40** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.55, 20.05, 23.30** Авто: вторые руки. **12.35, 20.20, 23.50, 4.10** Трасса А2. **13.25** Вторичка. **13.40, 1.55** Тест на «Драйве». **14.15, 1.25** Испытание на прочность. Эксклюзив. **15.05, 4.55** 9 злобных водителей. **15.40** Вечер с Пикуленко. **16.25** Все включено. Эксклюзив. **16.40, 2.25, 2.55** Комплектация. **17.15** Сити тестер. **21.10, 22.30** Эконом-тест. **21.30, 21.55** Возвращение легенды. **5.25** Байки про байки.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.45, 8.35, 9.20, 10.10, 19.40** Приключения на рыбалке. **10.55, 11.40** Масштабные перевозки. **12.30, 13.20** Австралийские охотники на лобстеров. **14.05, 14.55** Австралийские золотоискатели. **15.40, 18.55, 2.15, 3.00, 3.45, 4.30** Поисковая команда в Австралии. **16.25, 20.25** Речные чудовища. **17.15** Масштабные инженерные ошибки. **18.05, 18.30** Демонтаж: Новая Зеландия. **21.20** Чудовищный карп. **22.05** Большое рыболовное состязание. **22.55** Невероятная рыбалка. **23.50** Большой улов. **0.40, 1.05, 1.25, 1.50** Охота на оленей. **5.15** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.10, 6.15, 5.25** Невероятные изобретения. **6.45, 7.30** Музейные тайны. **8.20, 9.10, 10.00, 10.55** 5000 лет истории Нила. **11.45** Наполеон. **12.50, 13.45, 14.35, 15.30, 16.25, 17.20** Разгадка тайны пирамид. **18.30** Viasat History представляет: этот день в истории. **19.30** Даты, вошедшие в историю. **20.00** Хит-парад военной техники. **21.00** Спецназ древнего мира. **21.55, 1.15, 2.05** Мифические существа. **22.45** Мифы и чудовища. **23.35, 0.25** Карты убийства. **3.00, 3.45, 4.35** Запретная история.

### NATURE

**6.00, 3.15, 3.40** Уличный ветеринар. **6.25, 7.15, 8.00, 8.45, 9.35, 10.20, 2.30** Ветеринар из Йоркшира. **11.05, 11.30, 11.55, 12.20, 12.50** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **13.15, 14.05** Выживание в дикой природе. **14.55** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **15.45, 20.00** Дикая Латинская Америка. **16.40, 17.30, 18.25** Великая рифтовая долина — дикое сердце Африки. **19.15, 23.15** Невероятные встречи с животными. **20.55** Рассказы о бурях. **21.40, 22.30, 0.50, 4.10, 4.55** Мутации погоды. **0.00** Хищные питомцы. **1.40** Анатомия крупнейших животных.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.35** Игры разума. **6.20, 6.45, 14.55, 15.20, 15.50, 16.15, 16.40, 17.05, 17.30, 18.00** Инстинкт выживания. **7.10, 4.50** Самые лучшие суперкары. **8.00, 8.55, 9.45** Дикий тунец. **10.40** Научные глупости. **12.25, 18.25, 20.10** Китай с высоты птичьего полета. **13.15** В поисках Амелии. **19.15** Древний Китай с высоты птичьего полета. **21.00** Вторая мировая война: Подводный ад 3. **21.50, 22.40** День «Д»: Жертва. **23.30** Последние тайны Третьего рейха. **0.10, 1.00, 1.45** Граница. **2.30, 3.15** Космос: Пространство и время. **4.00** Авто-SOS.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 7.30, 9.05, 10.10, 11.15, 12.15, 13.20, 14.20, 15.25, 16.30, 17.30, 18.35, 19.35, 20.40, 21.40, 22.45, 23.50, 0.55, 1.55, 3.00, 4.00, 5.00** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **6.30, 8.35, 9.35, 10.40, 11.45, 12.45, 13.50, 14.50, 15.55, 16.55, 18.00, 19.05, 20.05, 21.10, 22.15, 23.15, 0.20, 1.25, 2.25, 3.30, 4.30, 5.30** Сомы Европы. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.15, 18.05, 22.00, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.35, 14.45, 18.35, 22.35, 2.40** Дачных дел мастер. **7.00, 11.05, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.40, 15.45, 23.35, 3.55** Школа дизайна. **8.00, 12.05, 16.15, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.25, 16.30, 0.20, 4.35** Сладкая жизнь. **8.35, 12.40, 16.50, 0.35, 4.50** Керамика. **8.50, 12.55, 17.05, 21.00, 0.55, 5.05** У мангала. **9.20, 3.40** Травовед. **9.35, 13.25, 17.35, 21.30, 1.25, 5.35** ТОП-10. **13.55** Варенье. **15.15** Стройплощадка. **19.40** Как поживаете? **20.25** Про грибы. **20.40** Домашние заготовки. **1.55** Соусы.

## Беларусь 1

**6.15** Х/ф **«СИНЕЕ ОЗЕРО».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.05** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ДАВАЙТЕ ПОЗНАКОМИМСЯ».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Твой город.

**15.30** Один день. Государственная граница.

**16.05** Судьба гигантов.

**16.40, 19.10** Х/ф **«ФЛАМИНГО».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«БРАТСКИЕ УЗЫ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.40** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.25, 19.40** Телебарометр.

**9.30** «Супержена». Реалити-шоу.

**10.20** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.05** «Четыре свадьбы». Реалити-шоу.

**12.25** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**13.10** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ: ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**

**15.05** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.45** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.30** Приключенческий экшн «Изгой-один: Звездные войны. Истории».

**20.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«СУРРОГАТЫ».**

**22.45** «Третий лишний». Реалити-шоу. [СТ].

**23.50** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**7.55, 14.20, 20.20** Навіны культуры.

**8.15** Гэты дзень.

**8.20** «Однажды утром». Мультфільм.

**8.30** «Міколка-паравоз». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Пірог з трусяцінай.

**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «У зоне асобай увагі». Мастацкі фільм.

**13.30** «Майстры і куміры». Акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага, рэжысёр Аляксандр Жданoвіч.

**14.40** «Тэатр у дэталях». Балет Вялікага тэатра Беларусі «Стварэнне свету».

**15.10** А.Пятроў. «Стварэнне свету». Балет Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**16.35** «Вясёлыя рабяты». Мастацкі фільм СТ.

**18.10** «УНОВИС». Дакументальны фільм.

**19.00** «За двума зайцамі». Мастацкі фільм СТ.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «І зноў Анікін». Мастацкі фільм СТ.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** Х/ф **«В ЗОНЕ ОСОБОГО ВНИМАНИЯ».**

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Премьера ОНТ: «Народный повар».

**11.00** Х/ф **«МЕЧТЫ ИЗ ПЛАСТИЛИНА».**

**12.45** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.00** Т/с **«ТОНКИЙ ЛЁД».**

**16.20** ОНТ представляет: «Моя Беларусь».

**16.30** ОНТ представляет: Гала-концерт «Моя Александрия». Лучшее.

**18.15** «Три аккорда».

**20.00** «Контуры».

**21.20** Премьера ОНТ: «Формула безопасности».

**22.00** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.20** Премьера. Гарик Мартиросян в музыкальном проекте «Щас спою!».

**23.35** Х/ф **«ДЕДУШКА МОЕЙ МЕЧТЫ».**

## СТВ

**6.35, 0.00** «Пища богов».

**8.15, 11.00** Документальный проект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**12.25, 13.40, 16.40** Т/с **«НЕИСПРАВИМЫЕ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.50** Документальный спецпроект.

**22.30** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«ВЕСЕЛЫЕ РЕБЯТА».**

**5.30** Мультфильмы.

**7.10** Х/ф **«АКСЕЛЕРАТКА».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15** Т/с **«ОРЛОВА И АЛЕКСАНДРОВ».**

**3.05** Т/с **«ВАНГЕЛИЯ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.45** «50 рецептов первого».

**7.15** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**10.55** «Чудо техники».

**11.45** «Дачный ответ».

**12.45** «НашПотребНадзор».

**13.35** Истории спасения.

**14.30** Х/ф **«СЫН ЗА ОТЦА...».**

**16.25** «Следствие вели…».

**19.45** Ты не поверишь!

**20.30** «Звезды сошлись».

**21.55** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СИНЕЕ ОЗЕРО».**

**10.30, 11.20** Х/ф **«ПОКА ЖИВУ, ЛЮБЛЮ».**

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**14.10, 21.45** Т/с **«ВПЕРЕДИ ДЕНЬ».**

**21.15** «В людях».

**23.10** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.45** Остров проклятых. **9.15** Талантливый мистер Рипли. **11.45** Правила виноделов. **13.55** Шрэк. **15.25** Шрэк 2. **17.00** Сделано в Америке. **19.00** Знакомьтесь, Джо Блэк. **22.10** Семь жизней. **0.20** Облачный атлас. **3.15** Большие глаза. **5.00** Клиент.

### TV1000 ACTION

**7.15** 22 пули: Бессмертный. **9.20** Прогулка среди могил. **11.15** Телохранитель. **13.00** Ю-571. **15.00** Штурм Белого дома. **17.15, 5.10** Неудержимые. **19.00** Неудержимые 2. **20.35** Неудержимые 3. **22.40** Неудержимый. **0.10** Мачете. **1.55** Мачете убивает. **3.30** Отель «Артемида».

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**8.05, 9.25** Рок-н-ролл для принцесс. **10.55** Ласковый май. **12.55** Привычка расставаться. **14.25** Помню – не помню! **15.40** Только не они. **17.25** Защитники. **19.00, 5.35** Притяжение. **21.00** Обитаемый остров. **23.05** Обитаемый остров: Схватка. **0.55** Нереальная любовь. **2.25** О чём молчат девушки. **4.00** Робо.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **9.15** «Погоня за вкусом». **10.15** «Далеко и еще дальше с Михаилом Кожуховым». **11.15** Х/ф **«СЕРДЦЕ ДРАКОНА. НАЧАЛО». 13.00** Х/ф **«СЕРДЦЕ ДРАКОНА: ПРОКЛЯТЬЕ ЧАРОДЕЯ». 15.00** Х/ф **«РЕМНАНТ: ВСЁ ЕЩЁ ВИЖУ ТЕБЯ». 17.00** Х/ф **«ВОИНЫ СВЕТА». 19.00** Х/ф **«ИСТОРИЯ ОДНОГО ВАМПИРА». 21.15** Х/ф **«ОТ ЗАКАТА ДО РАССВЕТА». 23.30** Х/ф **«ПЕСОЧНЫЙ ЧЕЛОВЕК». 1.15** Х/ф **«НЕ ДЫШИ». 2.30, 3.15, 4.00, 4.45, 5.30** «Городские легенды 2012».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ГРОМОВЫ. ДОМ НАДЕЖДЫ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 14.00, 22.00** Т/с **«ПОРОКИ И ИХ ПОКЛОННИКИ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ». 6.00** Т/с **«ПЕРВОЕ ПРАВИЛО КОРОЛЕВЫ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«ОПАСНЫЙ БИЗНЕС». 2.55** Х/ф **«МИССИЯ: НЕАДЕКВАТНА». 5.00** Х/ф **«ПЕНЕЛОПА». 6.50** Х/ф **«ЗЛОВЕЩИЕ МЕРТВЕЦЫ 3: АРМИЯ ТЬМЫ». 8.30** Х/ф **«СВАДЕБНЫЙ РАЗГРОМ». 10.20** Х/ф **«ПОСЛЕСВАДЕБНЫЙ РАЗГРОМ». 12.05** Х/ф **«МОШЕННИКИ». 13.55** Х/ф **«ТУПОЙ И ЕЩЕ ТУПЕЕ 2». 15.55** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ». 17.30** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО». 19.30** Х/ф **«СВАДЕБНЫЙ ПЕРЕПОЛОХ». 21.25** Х/ф **«МУВИ 43». 23.15** Х/ф **«ДИКИЕ ИСТОРИИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.35, 1.30, 2.25** Т/с **«ЛОЖЬ ВО СПАСЕНИЕ». 3.20, 4.35, 5.50, 7.05** Т/с **«БЕСЫ». 8.25, 9.20, 10.15, 11.10, 12.05, 13.00, 13.55, 14.50, 15.45, 16.40, 17.30, 18.25, 19.20, 20.15** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 21.10, 22.05, 23.05** Т/с **«ЯЛТА-45».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.25** Шоу «ГАЛИЛЕО». **10.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **11.00** Скетч-шоу «СЕЗОНЫ ЛЮБВИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45, 14.10, 21.00, 1.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **15.35** Х/ф **«НОВЫЙ ЧЕЛОВЕК-ПАУК». 18.15** Х/ф **«НОВЫЙ ЧЕЛОВЕК-ПАУК: ВЫСОКОЕ НАПРЯЖЕНИЕ». 22.25** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **23.05** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **0.05** Т/с **«ГАЛЫГИН. RU». 2.35** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Хоккей на траве. Чемпионат Беларуси. Мужчины. Финал. **8.35, 17.50** Легкая атлетика. Чемпионат Беларуси. **12.15** Пит-стоп. **12.45** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 20-й тур. Неман (Гродно) – Динамо-Минск. **14.45** Тренировочный день. **15.15** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **15.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 20-й тур. Торпедо-БелАЗ (Жодино) – БАТЭ (Борисов). **21.20** Автоспорт. Дрифтинг. Чемпионат Беларуси. Первый этап. Логойск. **23.10** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.55** Спорт-центр.

### EUROSPORT

**0.00, 2.30, 6.00, 11.00, 12.00, 15.00, 16.30, 20.45** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Первый раунд. **1.00, 9.30, 19.30** Велоспорт. «Страде Бьянке»-2020. **4.00** Велоспорт. Het Nieuwsblad-2020. **5.00** Велоспорт. Кюрне – Брюссель – Кюрне. **8.00** Велоспорт. Страде Бьянке-2019. Женщины. **8.45** Велоспорт. «Страде Бьянке»-2019.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.15, 6.55, 17.40, 18.25** Гаражная команда. **6.40, 7.20, 7.50, 18.10, 18.55** Аварийная ситуация. **7.35, 10.20, 13.00, 16.15, 19.10, 23.30, 1.30, 3.50** Итоговые новости. **8.10** Резьба по стали. **8.40** Тест с дядей Ваней. **8.55, 9.45** Мотогараж. **9.30** Мото тест-драйв. **10.35** Проверка на дороге. **10.55, 0.35** Испытание на прочность. **11.25, 19.30, 22.40, 3.20** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.55, 19.55, 23.15** Авто: вторые руки. **12.10, 20.15, 23.45, 4.05** Трасса А2. **13.20** Вторичка. **13.35, 1.50** Тест на «Драйве». **14.10, 1.05** Испытание на прочность. Эксклюзив. **14.40, 4.50** 9 злобных водителей. **15.15** Байки про байки. **15.55** Все включено. Эксклюзив. **16.30, 17.05, 2.20** Комплектация. **21.05, 22.25** Эконом-тест. **21.20, 21.55** Возвращение легенды. **2.50** Сити тестер. **5.20** Вечер с Пикуленко.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.50, 8.45** Речные чудовища. **9.35, 10.00** Демонтаж: Новая Зеландия. **10.25** Масштабные инженерные ошибки. **11.15, 21.20** Поисковая команда в Австралии. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.55, 16.40, 17.30, 18.15, 19.00, 19.50, 20.35** Австралийские золотоискатели. **22.10, 22.55** Австралийские охотники на лобстеров. **23.45, 0.10, 0.35, 1.00** Нефритовая лихорадка. **1.25, 2.10, 2.55, 3.40** Деревенский дом. **4.25, 5.10** Перевозчики поездов.

### HISTORY

**6.10, 7.00, 7.45, 11.55, 12.40, 13.30, 14.15, 15.00, 15.50, 16.35** Музейные тайны. **8.35, 9.25** Тайны музеев. **10.10, 11.05, 1.10, 2.00** Мифические существа. **17.25** Поля сражений. **18.30** Viasat History представляет: этот день в истории. **19.20** Даты, вошедшие в историю. **19.50** Древние небеса. **21.00, 21.50** Частная жизнь. **22.40** Карты убийства. **23.30, 0.20** Могилы викингов. **2.55, 3.40, 4.30** Запретная история. **5.20** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.05, 6.35, 3.30, 3.55** Уличный ветеринар. **7.05** Эхо динозавров. **8.00** Берег хищников. **8.50, 17.40** Длиннокрылая акула – гроза кораблекрушений. **9.45** Невероятные животные. **10.35, 11.30, 15.00, 18.30, 19.25** Дикая Латинская Америка. **12.25, 13.15, 14.10** Загадочная планета. **15.55, 16.45** Уэльс: дикая земля. **20.20** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **21.10** Земля больших кошек. **22.00** Война за животных. **23.30** Невероятные встречи с животными. **0.15** Хищные питомцы. **1.05, 5.15** Мутации погоды. **1.50** Анатомия крупнейших животных. **2.40** Ветеринар из Йоркшира. **4.25, 4.50** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 1.35, 5.10** Инстинкт выживания. **6.25, 20.05** Самые лучшие суперкары. **7.15, 8.10, 9.00, 9.55** Дикий тунец. **12.30** Вдоль по каньону. **14.00** «Фри-соло». **15.45** Следующее мегацунами. **16.35** Секунды до катастрофы. **17.30** Свидетели японской катастрофы. **18.25** Суперсооружения: чудеса инженерии. **19.15** Внутри невероятной механики. **21.00** Суперсооружения. **21.50** Зона строительства. **22.20, 23.10** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **0.05, 0.50** Космос: Пространство и время. **2.00, 2.45** Авто-SOS. **3.35, 4.20** Секретные материалы древности. **5.35** Игры разума. **5.50** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.05, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.35, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 19.00, 23.00, 3.10** Мир рыболова. **7.25, 15.35, 23.30** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 11.50, 16.05, 20.00, 0.00, 4.05** Андрей Старков и его команда. **8.25, 12.20, 0.30, 4.35** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **8.55, 12.50, 17.05, 1.00, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 13.25, 17.35, 5.35** Россия заповедная. **11.20, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **15.15** Две на одного. Снаряжение. **16.35, 20.30** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **21.00** На рыбалку с охотой. **21.35** Донка против фидера. **1.35** Рыбалка в России. **2.55** Две на одного. Оружие.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.15, 18.10, 22.05, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.35, 14.45, 18.40, 22.35, 2.40** Дачных дел мастер. **7.00, 11.05, 15.15, 19.10, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.40, 23.35** Школа дизайна. **8.00, 12.05, 16.15, 20.15, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.25, 0.20** Сладкая жизнь. **8.35, 12.40, 0.35** Керамика. **8.50, 12.55, 17.10, 21.05, 0.55, 5.05** У мангала. **9.20, 3.40** Травовед. **9.35, 13.25, 17.35, 21.35, 1.25, 5.35** ТОП-10. **13.55** Варенье. **15.50, 19.40, 3.55** Как поживаете? **16.35, 20.30, 4.35** Про грибы. **16.50, 20.45, 4.50** Домашние заготовки. **1.55** Соусы.

# Была і такая вайна

## Успаміны Часлава Лявіцкага, удзельніка вераснёвай кампаніі 1939 года

**Спіс вераснёвых смертнікаў Францішка Жылкі, надрукаваны ў №19 «Рэгіянальнай газеты», выклікаў водгукі чытачоў, якія знайшлі сваіх родных. Прапаную вам успаміны Часлава Лявіцкага, жыхара вёскі Кабыльнік, што на Мядзельшчыне. Часлаў Чеслававіч, народжаны ў 1912 годзе, таксама служыў у гэтай дывізіі. Успаміны я запісаў у жніўні 1999 года.**

МЯДЗЕЛ

### Не звалася Беларусь, а звалася Крэсы

**– Раскажыце, як жылося беларусам пры польскай уладзе да Другой сусветнай вайны.**

– Беларусь – гэта мы зваліся: ад Краснага і Маладзечна роўна Гродна і Сувалкі, затым па мяжы Літвы, Германіі і Польшчы. Гэта старана звалася Крэсы. Не звалася Беларусь, а звалася Крэсы. Мы зваліся так ад таго, што да 1919 года тут улада Расеі была. А я нарадзіўся ў 1912 годзе, дык памятаю.

Польшча ж далей на захад месцілася, аж пакуль у 1919 не знайшоўся Юзаф Пілсудскі, які адбіў нашы землі да Польшчы. Таксама ў той час ад немца зямлі ля мора забраў. Палякам Амэрыка, Англія і Францыя дапамагла.

Гэта я добра ведаю, бо калі я быў у арміі, прыязджала дэлегацыя амерыканская, ангельская і французская. Я нават ім афіцыянтам служыў, як яны ў альтанцы сядзелі пры аркестры. Яны прамову гаварыць, як Амэрыка, Англія і Францыя сябравала з Польшчай і што ў 39-м будуць палякам дапамагаць. А Гітлер з трыццаць сёмага пачаў нападаць на Польшчу, каб палякі вярнулі нямецкія землі.

### Забраў Чэхаславакію – давай цяпер праезд

Якраз у 36-м памёр Юзаф Пілсудскі – правадыр, які адбароў Польшчу. Прэзідэнтам стаў Ігнаці Масціцкі, а над арміяй – сілай збройнай – Рыдз-Сміглы.

Калісьці Рыдз-Сміглы разам з Гітлерам вучыўся ў Штабе Ваенным і сябраваў з ім студэнтамі. Гітлер зразу нагаварыў Рыдза-Сміглага, свайго сябра, ісці сабе кулёніі забіраць, якія былі ў пачатку свету на карце.

І пайшлі палякі на Чэхаславакію адбіраць Салежанію. Гітлер даў Польшчы самалёты. Чэхаславакія прайграла і аддала палякам Салежанію. Гэта было можа ў 1937 ці 1938, бо я пасля 36-га ўжо быў з арміі вярнуўся.

Гітлеру ж толькі тое і трэба было. Ён сказаў: «Ты-то забраў Чэхаславакію, давай цяпер праезд». На той час немцы плацілі палякам за праезд, бо Германія ў двух кусках была падзелена. Пры Пілсудскім яшчэ Амэрыка-Францыя памаглі землі нямецкія адбіць і да мора падступіцца, а Германію разлучыць. На дзве часткі Польшчай землі Германіі падзяляліся: Заходняя Прусія са сталіцай Інстэнбург, а на другой старане – Берлін. Таму немцы і плацілі грошы палякам за праезд па іхняй тэрыторыі. У 37-м ужо пад 1938 год Германія зусім націснула: «Дай праезд, а не тое вайной пойдзем». Але Польшчай распараджалася Амэрыка і Англія. Апёка была. І вось яны кажуць, што нельга і ўсё.

> **Тады Гітлер вырашыў адзець армію ў адзенне студэнтаў і самасільна-самапраўна ехаць гэтым самым пуцёві.**

А Польшча падмінавала чыгунку і ўзарвала, злажыла іхні цягнік і іх разам у кашу. Немцы тады два гады баяліся, не чапалі. Толькі праз радыё, кіно, газеты патрабавалі: «Аддавайце, бо ўсё роўна адаб'ём». А Амэрыка, Англія і Францыя адказваюць немцу болей як Рыдз-Сміглы, што нельга.

### Ну дзе ж Польшча вывесіць сцяг?

І калі Гітлер зусім стаў нападаць, Польшча папрасіла ў Сталіна дапамогі проці Германіі. Гэты самы Сталін: «Вывесіць сцяг чырвоны і пушчай ідзёт – у кашу яго зложым». Аднак Польшча больш фашысцкая была, камунізму не хацела. Ну дзе ж яна вывесіць сцяг? Гэта ж азначала паддацца пад саветы. Не пагадзіліся. Тады Гітлер паехаў да Сталіна. Мы былі ўжо змабілізаваныя ў 1939 за два тыдні ў месяцы перад жніўнем, сядзелі толькі пры радыё і выніку чакалі. А немец як падпісаў дамову, адразу праз рацыю перадаў. І без усялякай затрымкі немцы лупянулі па нашай граніцы. Вайну аб'явілі.




Верасень 1939 года. Разлік нямецкай зенітнай пушкі на плошчы Оперы ў Варшаве.

> **Я быў змабілізаваны ў шосты полк у Вільні. Наша дывізія складалася з пятага і шостага палкоў пехаты ў Вільні, палка ў Маладэчне і 77 палка ў Лідзе.**

У Вільні пяты і шосты палкі загрузілі на платформы разам з артылерыяй і, значыць, нам была задача ісці на Пултуск, да нямецкай граніцы. І толькі мы даехалі да Белыстоку, а немец нам ужо дарогу разбіў. Белысток таксама ўжо быў разбіты. Маткі неслі дзетак без рук, без ножак. Неслі іх хавацца пад гарой за касцельнымі мурамі, а нашы санітары паратунак рабілі гэтым дзеткам.

### А насустрач – пахароны і пахароны

У Белыстоку нас разгрузілі, і мы пешшу пайшлі да Пултуска. Як сталі падыходзіць да граніцы, то бачым, што нам насустрач усё пахароны і пахароны. Што такое? Калі наша адміністрацыя прыглядзелася, аказалася, што гэта немцы з прыгранічча перадаюць у трунах флёйдойчам амуніцыю. Флёйдойч – гэта калі жонка немка, а ён паляк, ці наадварот. А наша адміністрацыя паглядзела толькі на гэта, і мы як ішлі фронтам, так і пайшлі. Проста нашым чапаць нельга было. Гэта ўваходзіла ў кампетэнцыю іншага кіраўніцтва, пэўна, жандармерыі.

І, значыць, да Пултуска прыйшлі 3 ці 4 верасня. У кожнага жаўнера стаяла задача трох нямецкіх вайскоўцаў забіць, каб абараніцца, бо іх нацыі было ў тры разы болей. Дык мы ўглыб Германіі на пятнасце кіламетраў увайшлі. Раніцай нам сказалі, што калі яшчэ два такія цёсы зробім, то мы выграем Польшчу. У Даленку далі нам кухню – паесці.

Потым загадалі выкінуць лішнія адзеялы з пляцака, зруляваць шынэлькі – усё, каб лягчэй было ў наступленні. Далі па 6 штук сухароў пшанічных, жалязная порцыя, у баначцы кансервы пазапіхалі ў карман. І толькі гэтак мы паелі і зноў уступілі ў барацьбу. Як даў немец раптам сілу, і мы толькі дзве нядзелі ў адступленні былі. Толькі ў адступленні. А нідзе не далі злажыцца. Мы пяхотай, а яны вакол транспартам. Карты ж маюць тэрыторый. Забягуць наперад – і тады з аднаго боку, з другога крыжавымі агнямі кулямётамі, аўтаматамі, артылерыяй – і зноў у кашу. Бачым, што нічога так не будзе. Тады наша дывізія як ёсць пехата, артылерыя, кавалерыя, звяд лісапедны, хацела лесам немцам не дацца, каб дайсці да Варшавы. Хоць у Варшаву трэба было немца не ўпусціць.

**Вадзім ПРАЎРАЦКІ.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

**24 ЛІПЕНЯ**

**1761.** Нарадзіўся **Якуб Ясінскі**, вялікалітоўскі і польскі ваенны дзеяч. Кіраўнік бітвы пад Соламі 26 чэрвеня 1794 года з расійскімі войскамі. Загінуў 4 лістапада 1794 года.

**1930.** Нарадзіўся **Уладзімір Калачык**, ад 1957 старшыня калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы. Памёр 20.03.2020.

**1963.** У Маладзечне нарадзіўся беларускі гісторык **Аляксандр КахаНоўскі**, сын Генадзя Каханоўскага.

**25 ЛІПЕНЯ**

**1997.** Памерла **Наталля Арсеннева**, беларуская паэтэса (нар. 20.9.1903). У 1940 годзе працавала ў Вілейскай абласной газеце разам з Максімам Танкам і Ежы Путрамантам.



**26 ЛІПЕНЯ**

**1875.** Нарадзіўся **Марцін Кухта**, друкар, выдавец кніг на беларускай, рускай, польскай і літоўскай мовах. У яго друкарні выйшаў першы нумар газеты «Наша Ніва» (1906).

**1965.** Нарадзіўся беларускі мовазнаўца **Зміцер Саўка**. Аўтар мовазнаўчых слоўнікаў і энцыклапедый. Працаваў літаратурным кансультантам у шэрагу СМІ. Кансультаваў таксама «Рэгіянальную газету». Памёр у 2016 годзе.

**27 ЛІПЕНЯ**

**1320.** Бітва пад Меднікамі. Войска ВКЛ перамагло рыцараў Тэўтонскага ордэна.

**28 ЛІПЕНЯ**

**1944.** Савецкія войскі занялі Брэст. Беларусь цалкам вызвалена з-пад нямецкай акупацыі.

**2000.** У Катыні ўрачыста адкрыты мемарыял польскіх і расійскіх ахвяр НКВД. Сярод іх і этнічныя беларусы. У т.л. ураджэнцы і жыхары Павілля.

**29 ЛІПЕНЯ**

**1939.** Вярхоўны Савет БССР прыняў рашэнне перайменаваць горад Менск у Мінск.

**30 ЛІПЕНЯ**

**1840.** Мікалай I забараніў выкарыстанне тэрміну «Беларусь», замяніўшы яго на «губерні Паўночна-Заходняга краю».

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Рана ўставаць бацька прывык за польскім часам, калі мелі ўсё сваё»

## Сын Уладзіміра Калачыка – пра бацьку

**З-за сваёй працы Уладзімір Калачык мала бываў дома, але на дзяцей уплываў істотна. Заўсёды рана падымаўся. Гэта звычка была ад жыцця за польскім часам, калі людзі мелі ўсё сваё і працавалі на ўласнай гаспадарцы без прымусу. А аднойчы ён, старшыня калгаса, сарваўся з чарнаморскага курорта, бо ў гаспадарку ехала праверка.**


Courtesy Photo
Фота з асабістага архіва сям'і.

1966 год. Уладзімір Калачык з жонкай Лідзіяй, сынамі Валодзем (старэйшы) і Ігарам.

МАЛАДЗЕЧНА

У 90-годдзе Героя Сацыялістычнай Працы пра старшыню калгаса «Светлы шлях» у Заскавічах, двойчы дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, двойчы дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, першага Ганаровага грамадзяніна Маладзечаншчыны **Уладзіміра Калачыка** нам расказаў яго сын, таксама **Уладзімір**.

### Як юны Уладзімір Калачык быў і за бацьку, і за маці малодшым

– Шмат чаго яшчэ хацеў у бацькі распытаць пра яго час і яго жыццё. Ды ведаеце, як часта бывае: збіраўся-збіраўся і не сабраўся. А цяпер ужо позна, – пачынае Уладзімір Уладзіміравіч. Людзі ў тыя часы шмат перажылі. Былі свае складанасці і пры паляках, і пры саветах.

Суразмоўца расказвае, што яшчэ падлеткам бацька застаўся сіратой. У 1943 годзе памерла маці, праз пару год – бацька.

> Старэйшы Уладзімір клапаціўся пра траіх малодшых – двух братоў і сястрычку. У родных Мароськах дзецям, як маглі, дапамагалі блізкія і далёкія сваякі. Хлопец паспеў павучыцца ў польскай школе, шмат займаўся самастойна.

– Польскую мову, вывучаную ў школьныя гады, бацька добра ведаў усё жыццё. Гэта спатрэбілася падчас замежных паездак. Варта было яму крыху пабыць сярод палякаў – і ён пачынаў гаварыць на добрай размоўнай польскай, – прыгадвае Уладзімір Уладзіміравіч.

Расказвае, што прага да ведаў у бацькі была заўсёды. Вучыўся ў Ашмянскай сельгасшколе, пасля вучыўся ў школе кіраўнікоў сельскай гаспадаркі ў Гродне, Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, у аспірантуры. Атрымаўшы нейкі са сваіх дыпломаў, бацька амаль плакаў ад шчасця, прыгадвае сын.

### Рана прачынацца прывык яшчэ пры паляках

Пасля вайны ў Мароськах засталося толькі 150 хат. Астатнія спалілі немцы. Як пачалася калектывізацыя, Калачыкі ўступілі ў калгас. Уладзіміра абралі ўчотчыкам, пасля брыгадзірам, а потым і старшынёй роднага калгаса.

> У другой палове 1950-х па прапанове Сяргея Прытыцкага Уладзімір Калачык ужо ўзначальвае калгас «Светлы шлях» у Заскавічах.

– У калгасе бацька працаваў разам з мамай. Яна была эканамістам. Штодзень бацька ўставаў вельмі рана і – на працу, аб'язджаць палі. Дамоў прыходзіў позна ўвечары. Рана падымацца прывык яшчэ пры паляках. Тады, пры Польшчы, яго сям'я мела нядрэнную серадняцкую гаспадарку. І людзей ніхто не гнаў працаваць. Яны рана падымаліся, ішлі і працавалі самі, бо ведалі – працуюць на сваім, – працягвае Уладзімір Уладзіміравіч.

Кажа, абрывачна бацьку памятае гадоў з пяці. З сям'ёй з-за працы старшыня калгаса часу праводзіў зусім мала. Праўда, часам браў маленькага сына з сабой у машыну, і яны разам аб'язджалі палі. Глядзелі, як сеялі, як збіралі ўраджай.

### Як сарвалася адзіная сямейная паездка на мора

Сямейныя паездкі былі вельмі рэдкія. Калі заканчвалася ўборачная, старшыня мог з'ездзіць куды-небудзь адпачыць з жонкай.

– А на Чорнае мора ўсёй сям'ёй – я, малодшы брат і бацькі – ездзілі толькі адзін раз. Крыху паспелі пабыць.

> І тут бацьку паведамляюць, што ў калгас едзе нейкая праверка. Мусілі кінуць адпачынак, садзіцца на самалёт і вяртацца ў Заскавічы, – працягвае суразмоўца.

І ўсё ж, нават мала бываючы дома, бацька аказваў значны ўплыў на дзяцей. У камандзіроўкі ў Маскву, Канаду, Польшчу, Манголію, Германію заўсёды браў з сабой фотаапарат. Шмат здымаў, а потым паказваў і расказваў сынам. У замежных паездках часта набываў для хлопчыкаў пазнавальныя кнігі і часопісы, якіх у СССР было не знайсці. Гэта вельмі развівала, перакананы Уладзімір Уладзіміравіч. Яшчэ ён прыгадвае, што ў бацькі была тэлефонная кніжка з нумарамі савецкіх артыстаў.

### Пабудаваў школу, лазню, рэстаран

– Старшыня калгаса шмат зрабіў для вёскі. Пры ім у Заскавічах пабудавалі новую школу, домікі для настаўнікаў, якія прыязджалі на працу. Былі тут і лазня, і рэстаран. У 1973 годзе пабудавала новы дом і наша сям'я. Нарэшце перайшлі з найманай кватэры. Тады ўласны дом падаваўся вельмі добрым. Але на цяперашні час ён самы звычайны, – прыгадвае суразмоўца.

У новай школе, пабудаванай дзякуючы бацьку-старшыні, вучыліся абодва сыны Калачыкаў. Але, па словах суразмоўцы, ніякіх асаблівых ільгот старшынёвым хлопцам настаўнікі не рабілі:

– Наадварот, педагогі часта маглі патэлефанаваць маме і расказаць, калі ў нас былі нейкія праблемы ў школе. Педагагічны калектыў у школе быў добры, прафесійны.

Ды і самі хлопцы стараліся вучыцца. Ведалі: пасля школы трэба абавязкова паступаць далей. Праўда, па шляху бацькі ніхто з сыноў не пайшоў. Напрыклад, мой суразмоўца добра маляваў, таму атрымаў спецыяльнасць архітэктара ў Беларускай політэхнічнай акадэміі (цяпер БНТУ).

– Бацька неяк і сказаў на адным са сходаў работнікаў сельскай гаспадаркі, што вось мы працуем, а па нашых шляхах, у сельскую гаспадарку, моладзь ісці не хоча. Але тым не менш, шматлікія супрацоўнікі сельскай гаспадаркі Маладзечаншчыны – гэта людзі, якія прайшлі бацькаву школу.

Уладзімір Уладзіміравіч адзначае: бацьку шанцавала ў жыцці на добрых людзей, якія яму давяралі, вылучалі яго на пасады. І ў той жа час Уладзімір Калачык старанная працай апраўдваў іх давер. Як толькі дзякуючы чарговаму высокаму званню старшыня калгаса атрымліваў нейкія магчымасці, ён стараўся іх выкарыстаць. Але не для сябе. Для іншых і для калгаса, якім кіраваў больш за 30 год.



Аксана **ЯРАШОНАК**
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06


Уладзімір Міхайлавіч Калачык (24 ліпеня 1930 года, вёска Мароські – 20 сакавіка 2020 года, вёска Заскавічы), старшыня калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна, кандыдат эканамічных навук, Герой Сацыялістычнай Працы (1966). Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР шостага склікання. Народны дэпутат СССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.

Нарадзіўся ў 1930 годзе ў сялянскай сям'і. Шмат вучыўся. У 1957 годзе абраны старшынёй калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна. Вывеў калгас у лік перадавых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Мінскай вобласці. Калгас стаў мільянерам і ў 1976 годзе быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 30 красавіка 1966 года за поспехі, дасягнутыя ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак бульбы, гародніны і пладоў, уганараваны званнем Героя Сацыялістычнай Працы з уручэннем ордэна Леніна і залатога медаля «Серп і Молат». У 1974 годзе абараніў дысертацыю на суісканне навуковай ступені кандыдата эканамічных навук. Ад 1988 да 1990 года – генеральны дырэктар агракамбіната «Маладзечанскі».

У 1990 годзе выйшаў на пенсію. Жыў у Заскавічах.



Івянчане стаяць у абарону крыжа.




Навучэнцы Івянецкага дзіцячага дома ў 1957 годзе перад кляштарам.

# Святыні віленскага барока

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 28, 29.*

## Пасля паўстання 1830-1831 гадоў кляштар быў зачынены.

Паступова касцёл настолькі прыйшоў у занепад, што спатрэбілася рэстаўрацыя, якая адбылася за сродкі парафіян пад кіраўніцтвам архітэктара **Бяляўскага** і мастака **Кураткевіча** ў 1854-1855 гадах. Пасля рэстаўрацыі храм асвяцілі ў гонар святога Міхала, чыё імя ён носіць і дагэтуль.

### Талерантнасць

У 1868 годзе абодва касцёлы былі зачыненыя і перавораныя ў аднайменныя праваслаўныя цэрквы. Па некаторых звестках, касцёл святога Міхала насіў імя Аляксандра Неўскага. Івянецкія каталікі мусілі хадзіць на імшу ў вёску Камень.

У 1907 годзе імператар Мікалай II выдаў указ «Аб талерантнасці». Згодна з ім, у краіне дазвалялася будаваць храмы і іншым канфесіям і веравызнанням. Дагэтуль дазвалялася будаваць толькі праваслаўныя храмы.

Мясцовыя жыхары, карыстаючыся гэтым, паставілі некалькі крыжоў каля былых касцёлаў святога Міхала, святой Тройцы, каталіцкіх могілкаў і ў іншых месцах. Паліцыя загадала гэтыя крыжы прыбраць і занесці на каталіцкія могілкі. Людзі адмовіліся выконваць. Паліцыя самастойна выкапала крыжы і занесла на могілкі.

Івянчане таемна, хаваючыся ад паліцыі, бакавымі вуліцамі вярнулі адзін з крыжоў да касцёла святога Міхала і паўсталі ў абарону крыжа. Пра гэта пісала газета «Наша Ніва» ў №25 за 1907 год.

**Загінулай падчас сутычкі з паліцыяй Юліі Нядзвецкай было арганізаванае ўрачыстае пахаванне. У 2010-х гадах на капліцы, што на каталіцкіх могілках, у яе гонар адкрылі мемарыяльную дошку.**

Касцёл святога Міхала заставаўся царквой да 1917 года. Памяшканні кляштара займалі праваслаўныя манашкі. Пасля прыходу ў 1917 годзе ў Івянец немцаў івянчане выгналі манашак і вярнулі касцёл і кляштар сабе.

У час Першай сусветнай вайны па загадзе расійскіх войскаў з касцёла знялі званы і аддалі на пераплаўку. Новыя званы адлілі ў Вянгрове. Адзін з іх, звон «Маршалак», быў адліты за кошт вайскоўцаў шостага батальёна Корпуса аховы памежжа, які размяшчаўся ў Івянцы, у гонар маршала Пілсудскага.

### Чырвоная Армія і вайна

У 1921 годзе касцёл быў нанава асвечаны і спакойна працаваў да 1939 года. Вясной 1939-га сюды вярнуліся айцы-францысканe. Разам з імі прыехалі **Герман Стэнпень** і **Ахілес Пухала**, якія ў будучым здзейсняць подзвіг. За што і будуць прызнаныя благаслаўлёнымі ў 1999 годзе Папам Рымскім святым Янам Паўлам II.

У верасні 1939 года пачалася Другая сусветная. 17 верасня ў Івянец увайшла Чырвоная Армія. Першым крокам новай улады быў вобшук у касцёле. Шукалі зброю па даносе мясцовых камуністаў. Яна была схаваная ў Чырвоным касцёле святога Аляксея. Пошукі зброі цягнуліся не адзін дзень, але не далі вынікаў. Айцец **Гіляры Прач** вытрымаў усе допыты і не выдаў схованкі. Амаль у першыя ж дні, пасля таго як у Івянец увайшла Чырвоная Армія, тут было створанае антысавецкае падполле. Узначалілі яго галоўны доктар івянецкай бальніцы – доктар **Кузьмінскі** і пробашч касцёла святога Міхала – айцец Гіляры Прач.

Касцёл у гэтыя дні працуе з вялікімі абмежаваннямі. Ксяндзам забаронена весці ўрокі рэлігіі ў школе. Імшы праводзяцца са скарачэннямі. Праз год, 14 верасня 1940 года, бальшавіцкія ўлады зачыняюць кляштар. Ксяндзы былі вымушаныя жыць хто дзе. Памяшканні кляштара аддалі пад ваенкамат.

У чэрвені 1941 года пачалася Вялікая Айчынная вайна. Падполле, якое існавала ў Івянцы і якое не ўдалося знішчыць НКВД, пераключылася на барацьбу з немцамі. У склад яго ўвайшлі таксама **Казімір** і **Люцыя Дзяржынскія**, якіх немцы вымусілі пераехаць у Івянец з Дзяржынава.

### Івянецкае паўстанне

Івянецкаму падполлю ўдалося распрапагандаваць значную колькасць паліцэйскага гарнізона ў Івянцы, што паслужыла ў немалой ступені прычынай поспеху івянецкага паўстання.

Паўстанне адбылося 19 чэрвеня 1943 года. Сігналам да паўстання паслужылі гукі звона «Маршалак».

Паўстанне было паспяховае. Немецкі гарнізон быў знішчаны. Але пасля гэтага прыйшлі наступствы. Пачалася аперацыя «Герман». Падчас яе былі знішчаны дзясяткі вёсак на ўскрайках Налібоцкай пушчы, тысячы людзей загінулі альбо былі вывезены на катаржныя работы ў лагеры на тэрыторыі Беларусі і Германіі.

У гэты час мужнасць прадэманстравалі сілу свайго духу айцы-францысканe Герман Стэнпень і Ахілес Пухала, ксяндзы пяршайскага касцёла, былыя ксяндзы касцёла святога Міхала. Яны загінулі, але не пакінулі парафіян. Хоць іх і многія папярэджвалі пра небяспеку, і айцец Гіляры Прач, і нават немецкі камендант Пяршаяў.

### Ад засолачнага цэха да вяртання

Падчас аперацыі «Герман» загінулі амаль усе навакольныя каталіцкія святары. Гэта **Леапольд Аўліх** і **Казімір Рыбалтоўскі** з Каменя, **Павел Доўжык** з Дзераўной, **Юзаф Бойка**, **Юзаф Борадын** і ксёндз **Жаўнерскі** з Налібок. Цудам ацалеў айцец Гіляры Прач. Ён хаваўся ў вёсцы Волма. Адтуль яго забралі ў польскі партызанскі атрад. Будучы яшчэ ў падполлі, атрымаў псеўданім Прачынскі. У гістарычных даследаваннях яго яшчэ называюць Прач-Прачынскі.

Пасля вайны, у 1947 годзе, ксяндзы з абедзвюх парафій пакінулі Івянец. У касцёле святога Міхала спачатку быў магазін, у падвальным касцёле быў засолачны цэх івянецкага райспажыўтаварыства.

У кляштары спачатку быў дзіцячы дом. Ад пачатку 1960-х там былі пачатковыя класы сярэдняй школы, вячэрняя і музычная школы. Ад канца 1960-х і да 1992 года касцёл і кляштар займаў эксперыментальны цэх Мінскага праектна-тэхналагічнага інстытута.

**На працягу некалькіх гадоў вернікі дабіваліся вяртання касцёла. Паступова ўлады пачалі прыслухоўвацца да іх просьбаў.**

Спачатку дазволілі праводзіць імшу каля касцёла. 29 верасня 1992 года, у дзень святога Міхала, адбылося асвячэнне дольнага касцёла.

У 1994 годзе вярнулі ўвесь касцёл і кляштар. Асвяціў касцёл і кляштар айцец-правінцыял Варшаўскай правінцыі **Юзаф Ланінскі**.

Ад 1994 года да 2001 га ў касцёле праводзілі рэстаўрацыйныя работы пад кіраўніцтвам **Уладзіміра Маскалёва** і брата-францысканіна **Уладзіслава Сакалоўскага**. Першым ксяндзом пасля вяртання касцёла стаў айцец **Каетан Рубін**.

10 чэрвеня 2001 года айцом-правінцыялам **Гжэгажам Бартосікам** у гонар святога Антонія быў асвечаны кляштар. Айцы-францысканe нарэшце вярнулі сваю ўласнасць.

> **Бітва ў Івенцы**
>
> Дрэнная выйшла тут справа з-за крыжа хрысьціянскага. У Івенцы ёсьць касьцел і цэрква. Цэрква перароблена з даўнейшага касьцёлу. Каталікі-мяшчане паставілі пасьля «свабоды» 4 крыжы ў мястэчку і хацелі паставіць пяты крыж каля цэрквы. І паставілі. Але па цяперашняму закону каталікі ня мелі права ставіць крыж свой каля цэрквы, і выйшаў прыказ земскага перанесьці.
>
> Калі прыехаў прыстаў выкапаць той крыж і пераставіць на могілкі, сабралася шмат баб. Бо івенецкія мужчыны блізка ўсе муляры і расходзяцца летам на работу.
>
> Як толькі паліцыя пайшла з могілак, мяшчане забралі крыж і бочнымі вуліцамі панесьлі яго і ўкапалі зноў недалека ад таго месца, дзе ён стаяў даўней, каля агароду Бурака. Тут паліцыя налящела на народ з нагайкамі. У стражнікаў паляцелі каменi. Паўліна Мікуцкая сьцягнула нават стражніка з каня, хоць яна і яшчэ 4 кабеты былі пабіты нагайкамі. Адным словам, выйшла бітва.
>
> Не абышлося і без крыві. Стражнікі пачалі страляць, і забіта была Нядзьведзкая, старушка 63 гадоў...
>
> «НН». №25. 1907

Публікацыя ў «Нашай Ніве» пра крыж.

**Ігар СОЛТАН**,
**бібліятэкар Івянецкай гарпасялковай бібліятэкі.**

# «Кожны назіральнік можа выратаваць тысячу галасоў»

## Маладзечанцам расказалі, чаму байкот выбараў – кепскі варыянт

**На гэтым тыдні адбыліся дзве сустрэчы выбаршчыкаў у Маладзечне – 20 і 21 ліпеня.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Падчас сустрэчы выбаршчыкаў у Маладзечне.

На першую сустрэчу прыйшло каля 200 чалавек, на другую – каля 100.

Актывісты і жыхары абмеркавалі навіны ў палітычнай сферы і погляды на тое, што варта рабіць у межах перадвыбарчага перыяду і саміх выбараў. Актывісты заклікалі тэрмінова запісвацца назіральнікамі, каб адсочваць і не дапускаць парушэнні на ўчастках для галасавання. Прыводзім асноўныя думкі і цытаты з абедзвюх сустрэч.

Актывіст **Вольга Шостак** падзялілася сваім досведам:

– Я віляйчанка, мама, у мяне двое дзяцей. Калі збірала подпісы ў Вілейцы, мне было страшна выходзіць на пікеты кожны раз. Але я не магла сабе дазволіць, каб сын праз некалькі гадоў сказаў: «Мама, ты ж магла ўсё змяніць, але нічога не зрабіла». Кожнае пакаленне мусіць здзейсніць гераічны, самаадданы ўчынак.

> **Нашы дзяды свой подзвіг зрабілі. А цяпер наша чарга паверыць у сябе і тых, хто побач з намі.**

Актывіст **Аляксандр** расказаў пра важнасць назіральнікаў:

– Размаўляў з людзьмі, што былі ў выбарчых камісіях у мінулыя гады, яны самі кажуць, што галасы не лічаць. І прасоцьб, каб на ўчастках быў хаця б адзін незалежны назіральнік, які б падтрымаў сумленнасць, тады б і яны адстойвалі праўдзівыя лічбы. Пажадана, каб на кожным участку было некалькі незалежных назіральнікаў. Трэба мяняцца, каб на ўчастку заўсёды хтосьці быў. І не толькі 9 жніўня, але і ў час датэрміновага галасавання.

Актывіст заклікаў прысутных далучацца да назіральнікаў. Для гэтага трэба раздрукаваць бланк і сабраць подпісы ад дзесяці чалавек, якія прапісаныя на ўчастку, дзе назіральнік плануе працаваць. Калі на ўчастку будзе некалькі назіральнікаў, трэба, каб галасы ў подпісах за іх не супадалі. Кожны назіральнік павінны сабраць подпісы ад людзей, якія яшчэ ні за каго не падпісаліся. Быць назіральнікам можна не толькі на сваім участку, а на любым, дзе зручна. А вось подпісы за назіральніка могуць быць толькі ад выбаршчыкаў з гэтага ўчастка.

Калі дакументы аформленыя правільна, камісія не мае права адмовіць чалавеку ў гэтым праве. Неабходна выпісаць нумар заявы ў журнале ўліку і папрасіць копію з нумарам рэгістрацыі. Камунікацыя паміж назіральнікамі адбываецца праз тэлеграм-канал.

> **22 ліпеня старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына заявіла, што колькасць назіральнікаў абмяжуюць праз эпідэміялагічную абстаноўку.**

– Кожны назіральнік можа выратаваць тысячу галасоў, – падкрэсліў актывіст. – Сам падлік галасоў павінны адбывацца так. Удзельнікі выбарчай камісіі працуюць па тры бакі ад стала, чацверты адкрыты для назіральнікаў. Назіральнікам трэба вывучыць дакументы і заканадаўства, каб адсочваць і спыняць парушэнні. Пасля падліку галасоў дакумент з лічбамі паказваюць назіральнікам і прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі.

> **Па словах актывістаў, аб'яднаны штаб Святланы Ціханоўскай, Віктара Бабарыкі і Валера Цапкалы стварыў сістэму, якая дапаможа даведацца сапраўдныя вынікі галасавання.**

Але каб яе даць, на кожным участку павінны сумленна выканаць працу назіральнікі.

У Лядовым палацы выступіў 28-гадовы маладзечанец:

– Я апалітычны чалавек. Мне 28 год, і за гэты час я перажыў тры або чатыры дэвальвацыі рубля. Наша існуючая ўлада любіць хваліць сябе за нейкую стабільнасць.

> **Што гэта за стабільнасць, калі просты рабочы чалавек можа пабяднець у тры разы па шчаўчку пальца?**

Гэта паказчык якасці ўлады, якасці кіравання. Мы бяднеем з кожным днём. Калі вы не хочаце, каб ваша дзіця гадоў праз 15 падышло і спыталася «Чаму мяне выгналі з інтэрната з-за таго, што не ўступіў у БРСМ?», дэмакратычнымі метадамі неабходна штосьці мяняць.

Маладзечанец, які працуе ў сферы электрычнасці, сказаў:

– Я чалавек апалітычны. Давайце паспрабуем пракантраляваць, магчыма, там не 3%, а 73%. Але мы павінны бачыць, упэўніцца ў гэтым. Некалькі год таму пад Маладзечнам збіраліся пабудаваць свінакомплекс. На пасяджэнні ў райвыканкаме выступалі жыхары, выступала педыятр, пенсіянеры, людзі, што адстойвалі чысціню паветра і заборный вады ў Маладзечне. Была зваротная сувязь. Жыхары з лічбамі даказвалі, што горад незваротна страціць, калі пад бокам будзе такая пабудова. Я наведаў месца, дзе пасля паставілі свінакомплекс. Мякка кажучы, адчуванне не з прыемных.

> **Хочацца, каб нашы дзеці мелі права жыць, дыхаць, не хварэць, ганарыцца дзядулямі і бабулямі.**

Актывіст, што збірала подпісы за Валера Цапкалу, заўважыла:

– Хачу заклікаць вас. Мы цярплівая нацыя. Многія хочуць перамен, але нечымі рукамі.

> **Калі кожны з нас будзе размаўляць з сябрамі, суседзямі, блізкімі, калі мы завяжам белую стужку на руку, тады ў горадзе будуць бачыць, што нас многа. Тады з'явіцца важнае пачуццё адзінства.**

Прадстаўнік ініцыятывы «Сумленныя людзі» падсумаваў:

**– Не галасуйце датэрмінова, прыходзьце на выбары 9 жніўня, і пажадана ў другой палове дня. Раней не было сістэмы палічыць галасы рэальна. У гэтым годзе ёсць. Самае галоўнае – каб былі назіральнікі.**

Калі назіральнікі бачаць на ўчастку парушэнні, актывісты прапануюць пра такія выпадкі адразу ж паведамляць у міліцыю.

Аляксандр адказаў на пытанне наконт байкоту выбараў:

– Байкот не дапаможа. Пазняк увесь час за байкот, цяпер часам думаеш, а чым ён ад Лукашэнкі адрозніваецца. Але пачытайце – нідзе ў свеце байкот не спрацаваў. Так толькі працсей фальсіфікаваць вынікі.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews
@rh.by
(8-033)
66-719-77

# Аб'яднанне, адмова ад выступленняў па радыё і ТБ. Як праходзіць перадвыбарчая гонка ў Беларусі

**14 ліпеня ЦВК зарэгістраваў пяцярых кандыдатаў у прэзідэнты. Імі сталі Святлана Ціханоўская, Ганна Канапацкая, Андрэй Дзмітрыеў, Сяргей Чэрачэнь і Аляксандр Лукашэнка.**


Андрэй Дзмітрыеў.


Марыя Калеснікава, Святлана Ціханоўская і Вераніка Цапкала.


Ганна Канапацкая.


Аляксандр Лукашэнка.


Сяргей Чэрачэнь.

«РГ» расказвае, што адбылося за тыдзень пасля рэгістрацыі ў прэзідэнцкай гонцы.

### Скаргі ў ЦВК і затрыманні

Пасля нерэгістрацыі двух кандыдатаў **Віктара Бабарыкі** і **Валерa Цапкалы** 15 ліпеня да ЦВК пачалі прыходзіць людзі, каб падаць скаргу на рашэнне Цэнтрвыбаркама. На працягу некалькіх гадзін чарга разраслася на некалькі кіламетраў. Па паведамленнях праваабарончага цэнтра «Вясна», у чарзе знаходзілася каля некалькіх тысяч чалавек.

ЦВК працаваў да 19:00. Пасля людзі пачалі разыходзіцца, але супрацоўнікі міліцыі, АМАП затрымалі за вечар 26 чалавек. Большасць ужо асудзілі па адміністрацыйных артыкулах за ўдзел у несанкцыяніраваным масавым мерапрыемстве і непадпарадкаванне.

У той жа дзень стала вядома, што ЦВК будзе прымаць толькі пісьмовыя звароты ад грамадзян. 20 ліпеня кіраўнік ЦВК **Лідзія Ярмошына** заявіла, што колькасць скаргаў ад беларусаў на нерэгістрацыю Бабарыкі і Цапкалы не падлягае падліку. Па стане на 18 ліпеня ў Цэнтрвыбаркам падалі больш за 10 тысяч скаргаў.

### Аб'яднанне штабоў Ціханоўскай, Бабарыкі і Цапкалы

16 ліпеня штабы **Святланы Ціханоўскай**, **Віктара Бабарыкі** і **Валерa Цапкалы** заявілі пра аб'яднанне.

Аб'яднанне альтэрнатыўных кандыдатаў падчас выбарчай гонкі адбылося ўпершыню ў беларускай гісторыі.

Раней кандыдаты аб'ядноўваліся перад пачаткам кампаніі.

Аб'яднаны штаб ад штаба Валера Цапкалы прадстаўляе яго жонка **Вераніка Цапкала**, ад Бабарыкі – **Марыя Калеснікава**, якая стала тварам выбарчай кампаніі пасля арышту Віктара Бабарыкі.

**Галоўнымі сімваламі аб'яднанага штаба сталі сэрца, кулак і знак «вікторы».**

Аб'яднаны штаб абазначыў пяць прынцыпаў, якімі будзе кіравацца на выбарах-2020: галасаваць толькі 9 жніўня, а не ў дні датэрміновага галасавання; вызваленне палітзняволеных і эканамічных зняволеных, перагляд іх спраў у незалежным судзе; правядзенне справядлівых і свабодных перавыбараў пасля перамогі Ціханоўскай; інфармаванне выбаршчыкаў пра тое, як абараніць свой голас; удзел беларусаў у ініцыятывах за сумленныя выбары.

Вераніка Цапкала прапанавала ўсім, хто хоча перамен у Беларусі, а таксама збіраецца ісці на выбарчы ўчастак і паставіць подпіс за Ціханоўскую, насіць на руцэ белую стужку.

### Пачатак перадвыбарчай агітацыі

**Ганна Канапацкая** адмовілася ўдзельнічаць у дэбатах, таму што, па яе словах, астатнія кандыдаты выглядаюць слабейшымі, чым яна. 20 ліпеня стала вядома, што кіраўніком яе штаба стаў былы прэм'ер-міністр Беларусі **Міхаіл Чыгір**.

Канапацкая таксама не плануе праводзіць пікеты ў сваю падтрымку.

У кандыдата ў прэзідэнты **Аляксандра Лукашэнкі** самая большая колькасць пікетаў, чым у іншых кандыдатаў. Большасць з іх зарэгістравалі на Гомельшчыне. Нагадаем, Лукашэнка адмовіўся выступаць на тэлебачанні і радыё, ад дэбатаў.

**Андрэй Дзмітрыеў** стаў адным з першых, хто правёў перадвыбарчы пікет са сваім удзелам. Ён правёў яго ў мінскім парку Дружбы народаў. На ім сабралася некалькі дзясяткаў чалавек.

Святлана Ціханоўская па стане на 21 ліпеня правяла два пікеты са сваім удзелам у Дзяржынску і Мінску.

У Дзяржынску сабралася некалькі соцень чалавек, а ў Мінску паслухаць аб'яднаны штаб прыйшло каля 7,5 тысячы чалавек.

**Сяргей Чэрачэнь** першым апублікаваў сваю прэзідэнцкую праграму. Па стане на 21 ліпеня гэты кандыдат у прэзідэнты пакуль не сустракаўся з выбаршчыкамі.

### Назіральнікі АБСЕ і БДІПЧ не прыедуць на выбары ў Беларусь

У Парламенцкай асамблеі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) заявілі, што несвоечасовае запрашэнне назіральнікаў на выбары ў Беларусі парушае прынятыя краінай абавязацельствы.

– Той факт, што Беларусь да гэтага часу не змагла запрасіць АБСЭ для назірання за прэзідэнцкімі выбарамі 9 жніўня, фактычна перашкодзіў назіранню за ключавымі этапамі выбарчага працэсу, такімі, як фарміраванне выбарчых камісій і рэгістрацыя кандыдатаў, – гаворыцца ў заяве.

АБСЕ заявіла, што назіральнікаў ад арганізацыі не будзе на выбарах у жніўні. Назіральнікаў не будзе і ад Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) – гэта адзін з інстытутаў АБСЕ.

Парламенцкая Асамблея Рады Еўропы таксама не будзе назіраць за прэзідэнцкімі выбарамі.

Ужо вядома, што назіраць за беларускімі выбарамі будуць прадстаўнікі ад СНД.

### Што далей?

Ад 15 ліпеня да 8 жніўня ў Беларусі будзе праходзіць перадвыбарчая агітацыя. 8 жніўня – «дзень цішыні», у які напярэдадні дня галасавання заканадаўствам забараняецца перадвыбарчая агітацыя. Ад 4 да 8 жніўня пройдзе датэрміновае галасаванне. 9 жніўня – дзень выбараў.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● ФУТБОЛ

## «Смаргонь» згуляла ўнічыю з «Арсеналам»

У 13-м туры смаргонская каманда сустракалася на футбольным полі з «Арсеналам». **Мікалай Зянько** са «Смаргоні» забіў з пенальці і адкрыў лік у матчы. У другім тайме **Валер Сянько** з дзяржынскай каманды зраўняў лік на табло. Больш мячоў у гульні футбалісты не забілі – **1:1**.

Жоўтыя карткі атрымалі **Уладзімір Маслоўскі**, **Ігнацій Сідор**, **Уладзіслаў Каборда** са «Смаргоні», **Аляксандр Скшынецкі** з «Арсенала».

«Смаргонь» апусцілася на шосты радок турнірнай табліцы першай лігі.

## «Ашмяны» прайгралі «Крумкачам»

Ашмянскі клуб на дамашнім полі сустракаўся ў 13-м туры з «Крумкачамі».

**Павел Дзямідчык** з «Ашмянаў» забіў першы гол у сустрэчы. Аднак у першай палове гульні адзначыўся і гулец «Крумкачоў» **Аляксандр Яцкевіч**. Пасля перапынку **Аляксандр Кучынскі** вывеў ашмянскіх футбалістаў наперад дакладным ударам у напрамку варот. **Андрэй Альшанік** аформіў дубль, чым падарыў «Крумкачам» перамогу ў гульні – 2:3.

«Ашмяны» знаходзяцца на дзявятым месцы ў турнірнай табліцы першай лігі.

**Настасся УТКІНА.**

## Новы сезон Лігі чэмпіёнаў пачнецца 8 жніўня

Сезон футбольнай Лігі чэмпіёнаў пачнецца матчамі папярэдняга раўнда ўжо 8 жніўня.

Пройдзе як міні-турнір з удзелам чатырох клубаў на адным стадыёне. У ім згуляюць прадстаўнікі краін з ніжкім клубным рэйтынгам Еўрапейскай футбольнай асацыяцыі.

**8 жніўня згуляюць чэмпіёны Сан-Марына і Паўночнай Ірландыі, Андоры і Косава. Пераможцы сустрэч 11 жніўня будуць гуляць з месца ў першым кваліфікацыйным раўндзе Лігі чэмпіёнаў.**

Беларусь у гэтым турніры прадставіць чэмпіён Беларусі «Дынама-Брэст». У Лізе Еўропы згуляюць мінскае «Дынама», барысаўскі БАТЭ і салігорскі «Шахцёр».

**Аддзел інфармацыі.**

● ХАКЕЙ

## Літвінаў падпісаў кантракт з «Дынама-Маладзечна»

22-гадовы беларускі форвард **Ілля Літвінаў** заключыў кантракт з «Дынама-Маладзечна».

У мінулым сезоне Літвінаў ужо гуляў за маладзечанскую каманду. У рэгулярным чэмпіянаце на яго рахунку 9 (1 + 8) ачкоў у 33 сустрэчах. У 12 матчах плэй-оф беларус вызначыўся закінутай шайбай.

У сезоне-2018/19 Літвінаў выступаў за мінскае «Дынама» ў КХЛ. Ён сыграў 49 матчаў і набраў 2 (1 + 1) балы.

**Паводле hockey.by.**

## Гендырэктар мінскага «Дынама» не прыйшоў на суд па дамоўным матчы

Генеральны дырэктар мінскага «Дынама» **Дзмітры Баскаў**, які павінны быў 21 ліпеня даваць паказанні ў справе аб дамоўным матчы паміж маладзечанскім «Дынама» і «Магілёвам» у лістападзе 2019 года, на пасяджэнне суда не з'явіўся.

Баскаў даслаў у суд хадайніцтва абвясціць яго паказанні, дадзеныя на папярэднім следстве. Сам ён не можа прысутнічаць па прычыне службовай камандзіроўкі ў Татарстан.

**Паводле pressball.by.**

## Сезон у жаночай НБА пачынаецца на гэтым тыдні

Сезон у жаночай НБА пачынаецца 25 ліпеня.

Нагадаем, што баскетбалісткі павінны былі выйсці на паркет яшчэ ў сярэдзіне мая. Аднак з-за каронавіруснай пандэміі кіраўніцтва лігі адклала пачатак на нявызначаны тэрмін.

У пачатку ліпеня кіраўніцтва лігі і прафсаюз гульцоў вызначыўся з аднаўленнем і дакладнай датай. Ліга прыняла меры па біспецы гульцоў і гледачоў.

Сезон пачнецца з сустрэчы «Сіэтла» і «Нью-Ёрка».

**Настасся УТКІНА.**

Фота забяспечана Ягорам ЯРМОЛЕНКАМ.

Карта маршруту.

# Цуд Куранца, пячора, чароўны камень

## Што можна ўбачыць на экалагічным веламаршруце па Вілейшчыне

**Каб адчуць сябе бліжэй да прыроды, паспрабуйце праехаць экалагічным веламаршрутам, які распрацаваў я. Ён прыцягвае ўвагу да славутасцяў і цікавых месцаў Вілейскага раёна.**

Маршрут пачынаецца ў Вілейцы, у цэнтры раёна. Першы пункт – крыніца Стрэж. Не даязджаючы да Нарочы два кіламетры, трэба завярнуць улева, у Забродзе.

**Мяркуецца, што крыніцы валодаюць магічнымі ўласцівасцямі, выконваюць жаданні, якія ідуць ад чыстага сэрца, калі выпіць гэтай вады.**

Крынічнай вады са Стрэжа можна набраць з сабой у дарогу.

Затым варта ехаць у Нарочу. Наступны прыпынак – геалагічны помнік прыроды «Агаленне Папоўцы». Агаленне размяшчаецца на правым беразе Нарачанкі, у двух кіламетрах на паўночны захад ад вёскі.

**Геалагічны помнік прываблівае прыгажосцю разнастайных выразных пластоў па беразе: гэта і алювій, і азёрна-ледніковыя пароды, і супескі.**

Тут можаце зрабіць шмат неардынарных фотаздымкаў.

### Паданне пра Гомсін камень

Цяпер накіроўваемся ў Куранец. Гэта мястэчка багатае на помнікі прыроды. На самым ускрайку Куранца ляжыць валун, які называюць «Гомсін камень». Пра гэты геалагічны помнік існуе паданне, якое расказваюць мясцовыя.

На Вялікдзень, калі ўсе пайшлі ў царкву, бязбожнік-шавец Гомсін працаваў, шыў боты. За гэта Бог разгневаўся, нагнаў хмары, навальніцу. Адна з маланак трапіла ў хату шаўца, якая адразу ж ператварылася ў камень. Так і стаіць гэты валун па сёння.

Кажуць, што на Вялікдзень, калі прыкласці вуха да Гомсіна каменя, можна пачуць спеў пеўня і стук малатка.

### Цуд Куранца

На іншым ускрайку Куранца, у напрамку да вёскі Рэчкі, можна пабачыць біялагічны помнік – адзіную ў Беларусі ніцую елку.

**Навукоўцы спрабавалі размножыць елку, але ў іх нічога не атрымалася.**

Вось і стаіць яна такая адзіная, цуд Куранца.

Цяпер едзем у Рэчкі. У лесе, адразу за вёскай, убачыце знакамітыя Рэчкінскія пагоркі. На паўночна-заходнім схіле гары знаходзіцца ўнікальная прыродная пячора. Яна мае вузкі праход і бачную даўжыню ў два метры. Мясцовыя жыхары расказваюць легенду пра гэта месца.

Даўным-даўно быў на месцы гары замак, запраўляў ім князь, сапраўдны д'ябал. Біў сваіх слуг бязлітасна, а любіў толькі золата. Адзін старац аднойчы праходзіў міма, спяваючы песню аб злачынствах князя. Той разгневаўся, загадаў схапіць небараку і павесіць. Перад смерцю старац вымавіў страшны праклён: «Праваліся пад зямлю разам са сваім замкам навечна і золата сваё ахоўвай!»

У ноч пасля павешання здарылася бура. А раніцай слугі не ўбачылі ні князя, ні замка. На яго месцы ўзвышалася гара з уваходам у пячору. Верыць гэтаму ці не, кожны вырашае сам. А мясцовыя жыхары знаходзілі тут залатыя падсвечнікі, манеты і ўпрыгажэнні. А тое, што гэта геалагічны помнік з багатай гісторыяй – дакладна.

Гэта быў апошні пункт нашага веламаршруту па экалагічных помніках Вілейшчыны. Вы пабачылі цікавыя мясціны, цяпер можна вяртацца ў Вілейку.

**Агульная працягласць маршруту з улікам дарогі назад – 66 кіламетраў.**

Выдаткаваны час на дарогу – 4 гадзіны 17 хвілін. Колькасць убачаных экалагічных помнікаў – пяць.

Бяром ровар і адпраўляемся ў дарогу! Лёгкага шляху!

**Ягор ЯРМОЛЕНКА, Вілейскі раён.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Яркі, светлы.
3. Рухавік, які ператварае кінетычную энергію вады, пары, газу ў механічную работу.
4. З'яўленне, прыход куды-небудзь або прысутнасць.
6. Прэзідэнт гэтай краіны перамог на выбарах у 1927 годзе з 234 тысячамі галасоў. На той момант у краіне было зарэгістравана 15 тысяч выбаршчыкаў. Прэзідэнт трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса за самыя фальсіфікаваныя выбары ў гісторыі.
8. Лёгкая лодка, выдзеўбаная з дрэва.
12. Шырокая і неглыбокая круглая металічная або пластмасавая пасудзіна.
13. Тое, што пацвярджае.
14. На нумарных знаках гэтага горада значыцца абрэвіятура SCV.
15. Травяністая расліна сямейства злакавых, зерне якой ідзе на прыгатаванне круп, мукі, соладу, на корм жывёле.
16. Баявая бронемашына на гусенічным ходзе з вялікай праходнасцю, якая ўзброеная пушкай і кулямётамі, устаноўленымі ў рухомай гарматнай вежы.
18. Афіцыйна ўстаноўленая сума збораў, аплаты.
19. Невялікія рэчы.
20. Пладовае дрэва сямейства ружакветных з ядомымі сакавітымі акруглымі пладамі.
21. Раўніннае месца.
22. Насціл з дошак.
23. Не хлусня.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Ежа з разбітых і запечаных у тлушчы яек.
2. Уласцівасць і не брудны стан чаго-небудзь.
5. У гэтай краіне сатырычная палітычная партыя заявіла, што не будзе выконваць ні адно з передвыбарчых абяцанняў. За іх прагаласавала 34,7% выбаршчыкаў.
7. Дамова.
8. Наведнік, абанент грамадскай бібліятэкі.
9. Скарга, незадавальненне.
10. Адтуліна, зробленая нечым калючым.
11. Скрынка, у якой хаваюць памерлага.
17. Магічныя прыёмы, пры дапамозе якіх можна ўздзейнічаць на людзей і прыроду.
19. Выступленне на пэўную тэму.
24. Яго амаль адмянілі ў ЗША ў 1784 годзе. Але галасаванне прайгралі ў Кангрэсе ўсяго на адзін голас.
25. Вялікае, звычайна цёмнае воблака, якое прыносіць дождж, град, снег.

## Адказы на крыжаванку з №29

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Кушляны. 4. Хутар. 5. Эльф. 7. Ландшафт. 8. Зорка. 9. Знічка. 10. Суфікс. 11. Хараство. 13. Лазня. 14. Элемент. 19. Дэфект. 20. Хваля. 21. Хлопчык. 22. Гардэроб.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Душ. 3. Дыктафон. 5. Экскурсія. 6. Літр. 7. Лаўка. 10. Сшытак. 12. Вачэй. 14. Эмаль. 15. Сякера. 16. Лета. 17. Святло. 18. Стайня. 19. Дыялог. 20. Хлеб.

## ГАРАСКОП НА 24-30 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Звяртайце ўвагу на знакі лёсу, якія будуць перад вамі. Іх будзе сапраўды шмат. Задумайцеся, што сапраўды важна цяпер для вас. Звяртайце ўвагу на дакументы. У працы давядзецца выконваць новыя задачы.



**ЦЯЛЕЦ.** Можа не хапіць часу на фізічную працу. Спатрэбіцца прыгадаць даўнейшае хобі, менавіта яно дапаможа адкрыць новыя магчымасці і знайсці ўпэўненасць. Рамантычная сфера на ўздыме, не губляйце час.



**БЛІЗНЯТЫ.** Усё, што будзе адбывацца вакол вас, будзе адбівацца на настроі. Вы нібыта будзеце трансліраваць тое, што прымаеце з навакольнага асяроддзя. Знайдзіце час, каб пагуляць на прыродзе і падыхаць свежым паветрам.



**РАК.** Вам так захочацца свабоды, што вы знойдзеце магчымасць, як адчуць сябе незалежным ад абставін. Нават калі будуць перашкоды ў выглядзе абцяжараных просьбаў, імкніцеся задаволіць тое, чаго прагне сэрца.



**ЛЕЎ.** Ад вас спатрэбіцца важная задача па кіраванні адміністрацыйнымі працэсамі. Уключыце дальнабачнасць і прымайце парады ад людзей, якім давяраеце. Старайцеся задаволіць жаданні каханых людзей.



**ДЗЕВА.** Час, калі вы зразумееце, што неабходныя перамены. Гэта можа быць колер валасоў або чахлы на сядзенні ў аўтамабіль, а могуць і больш сур'ёзныя рэчы. Зразумейце, чаго хочаце менавіта вы.



**ШАЛІ.** Час, калі вы будзеце засяроджаныя на памылках мінулага. Пастарайцеся прааналізаваць тое, што стала прычынай папярэдніх няўдач. Верагодна, менавіта падчас аналізу памылак прыйдзе рашэнне, як дзейнічаць далей.



**СКАРПІЁН.** Калі вы будзеце трымацца прынцыпу, каб жаданае зрабілася чужымі рукамі, надзеі на поспех не чакайце. Чаго б вы ні жадалі – смачнай вячэры або парадку ў доме, – бярыце і рабіце гэта сваімі рукамі.



**СТРАЛЕЦ.** Час, калі вы адчуеце, як вас напаўняюць сілы, нават такія, якіх не адчувалі ў сабе раней. Вызначыце для сябе, на якую мэту хацелі б іх накіраваць, і дзейнічайце. Пажадана не рабіць неабдуманых пакупак.



**КАЗЯРОГ.** Давядзецца выканаць шмат сур'ёзнай працы, таму, пакуль ёсць магчымасць, назапашвайце сілы. Будзьце ўважлівыя да слоў тых, каму давяраеце. Пастарайцеся рабіць тое, што прапануюць людзі, якім вы верыце.



**ВАДАЛЕЙ.** Калі вы ведаеце пра свае недахопы, самы час папрацаваць над імі. У гэты час важна быць сумленнымі і шчырымі як з блізкімі, так і з калегамі. Пастарайцеся паказаць самы чысты бок сваёй асобы.



**РЫБЫ.** Вы будзеце адчуваць сябе ўпэўнена і спакойна. Але блізкія могуць не адчуваць такую раўнавагу. Пастарайцеся знайсці час, каб даць ім увагу і добрыя парады, падтрымаць і адчуць адзінства.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | 2 | | | | | 8 | 1 |
| 7 | | | | | 2 | 4 | | 6 |
| | | | 4 | 8 | 7 | | | |
| | | 9 | 6 | | 5 | | | 4 |
| | 6 | | 8 | | | 5 | | |
| 5 | 8 | | | 2 | | | | 3 |
| 3 | | | 9 | 7 | | | | |
| | | 6 | | 1 | | | | |
| | 2 | | 3 | | | | | 9 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by




● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Ці здавалі вы экзамены на правы?

**Ірына Мартыновіч, раздатчыца ў бальніцы, Маладзечна:**
– Не здавала.



**Кацярына Ятэйка, майстар ногцевага сэрвісу, Маладзечна:**
– Здавала сем гадоў таму. Было не складана, але страшна. Таму што баязліўка, не ваджу гэтыя сем год.



**Леанід Лебедзеў, пенсіянер, Гудагай:**
– Так, здаваў. Яшчэ ў 1997 годзе.



**Ірына Літвін, інспектар па кадрах, Маладзечна:**
– Здавала ў 2016 годзе. Складанасці былі вядома, але дзякуючы добрай падрыхтоўцы ўсё атрымалася.



**Віталь Сакалоўскі, рабочы, Маладзечна:**
– Здаваў два разы: у 2010 і ў 2018 гадах.



**Сяргей Борыс, кіроўца, Вілейка:**
– Здаваў у 1996 годзе. Не складана, нармальна. Мы яшчэ па папяровых картках здавалі. У нас быў вельмі добры настаўнік у Вілейцы.



**Ірына Піскуровіч, повар, Вілейка:**
– Дачка здавала зусім нядаўна, год таму. І, дарэчы, удала, калі ўлічыць, што на дадзены момант яна мама 10-месячнага малога.



**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**





## Падпіска на 2-е паўгоддзе не спыняецца!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

### Як падпісацца на «РГ»

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструемся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 632122. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек,
- на квартал – 14 рублёў 88 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў,
- на квартал – 48 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная)*

## Чытайце праз тыдзень:

- **У Астраўцы паставілі помнік святым Пятру і Фяўронні. Разбіраемся, якое дачыненне маюць святыя з Мурама да Астравеччыны, якіх помнікаў яшчэ там не хапае і якія з'явіліся нядаўна.**

## 25 ліпеня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 4-5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература +5,8°С у 1990 годзе
Максімальная тэмпература +30,1°С у 2010 годзе
Максімальная колькасць опадкаў 36,9 мм у 1980 годзе

Паводле meteoinfo.by.






Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№30 (1317) 24.07.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1219. Падпісана ў друк у 9.00 23.07.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.